ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 25 (2323) 24 чэрвеня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

## 60 ГАДОЎ ТАМУ НАЗАД БЕЛАРУСЫ ЗАЙМЕЛІ ОПЕРНЫ ТЭАТР



Тамара НІЖНІКАВА са сваімі вучнямі.

Фота Віктара СТАВЕРА.

**Дзяржаўнаму акадэмічнаму Вялікаму тэатру оперы і балета Беларусі споўнілася 60 гадоў. І хоць галоўныя юбілейныя ўрачыстасці перанесены на восень, на пачатак тэатральнага сезона, днём нараджэння тэатра застаецца 25 мая 1933 года, калі прэм'ерай оперы "Кармэн" абвясцілі аб нараджэнні новага творчага калектыву.**

**У першыя гады свайго існавання тэатр працаваў у асноўным над творамі opернай і балетнай класікі, рускай і сусветнай, але паступова фарміраваўся нацыянальны оперна-балетны рэпертуар. Для тэатра пісалі свае творы старэйшыя беларускія кампазітары А.Багатыроў, Я.Цікоцкі, М.Аладаў, Д.Лукас, М.Крошнер, А.Туранкоў, да апошняга часу невядомыя на радзіме кампазітары-эмігранты М.Равенскі і М.Куліковіч-Шчаглоў. Нашы сучаснікі, кампазітары Я.Глебаў, Ю.Семяняка, Д.Смольскі, С.Картэс, Г.Вагнер, прадоўжылі гэта супрацоўніцтва з тэатрам. Апошняя нацыянальная опера, прэм'ера якой адбылася сёлета, — "Князь Навагрудскі" А.Бандарэнкі.**

**Кожны час мае свае адметнасці і складанасці. Няпросты ён і для сённяшніх спевакоў і музыкантаў, артыстаў балета, але ж унёс ён пэўныя станоўчыя зрухі ў творчае жыццё калектыву, даў магчымасць свет паглядзець і сябе паказаць. Сёлета оперная трупа з поспехам выступала ў Іспаніі, зараз тэатр гастралюе ў Тайландзе і Ганконгу.**

**Беларусь выгадавала не адно пакаленне майстроў опернай і балетнай сцэны, выдатных дырыжораў і рэжысёраў.**

**Тамара Ніжнікава аддала нацыяльнаму опернаму амаль трыццаць гадоў, бадай, палову таго шляху, які ён прайшоў, яна была з тэатрам, перажыла цяжкі пасляваенны час, многа зрабіла для яго сталення і поспеху. Валодаючы голасам чыстага серабрыстага тэмбру, філіграннай каларатурнай тэхнікай, яна з поспехам выступала ў спектаклях класічнага рэпертуару і ў нацыянальных беларускіх операх.**

**У канцы мая карэспандэнт "Голасу Радзімы" сустрэлася з Тамарай Мікалаеўнай і запісала яе шчырыя непасрэдныя ўспаміны пра тэатр, калег па сцэне, пра атмасферу, што панавала ў "храме мастацтва", пра тое, якім бачыцца ёй беларускі оперны сёння.**

**(Артыкул змешчаны на 6-й стар.).**

*НАТАТКІ СА З'ЕЗДА БГКТ*

## НА ПЕРАЛОМЕ ЖЫЦЦЯ

У аднайменным артыкуле ("ГР" N 22) мы ўжо паведамлялі, што ў канцы мая гэтага года адбыўся XII з"езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ). Яно аб"ядноўвае шэраг аддзелаў па ўсёй тэрыторыі Польшчы, але пераважна на Беласточчыне. Як і абяцалі чытачам, друкуем нататкі нашага карэспандэнта **Кастуся ШАЛЯСТОВІЧА** з гэтай, без сумнення, вызначальнай падзеі ў грамадскім жыцці беларускай супольнасці беластоцкага краю. А таксама — з навукова-тэарэтычнай канферэнцыі "Дарога да ўзаемнасці", якая прайшла напярэдадні з"езда і сталася як бы акадэмічным уступам да яго.

Беласточчына — край для беларушчыны асабліва важны. Гэта даўно вядома. Аднак варта навядацца туды, калі выпадзе гады ў рады нагода, як кожны раз асэнсаванне важнасці прыходзіць у новым ракурсе. І не заўжды ён аднасэнсоўны, гэты ракурс: надта шматзначнае сённяшняе быццё, надта далікатная матэрыя — жыццё нацыянальнай меншасці. У тым і справа, што не з"яўляюцца беларусы з усходу Беластоцкага ваяводства ні дыяспарай у яе класічным разуменні, ні эміграцыяй. Усё тут спаконвечна-роднаснае для беларускага сэрца: і Бог, і бацькоўскі парог. Таму з надзвычайнай любасцю ставяцца нашы польскія суродзічы да сваёй зямелькі, з абвостранай заклапочанасцю рэагуюць на яе нямогласці і балячкі.

**Запіс на канферэнцыі. Прарэктар Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, прафесар С.ГАБРУСЕВІЧ:**

**— Нацыянальная ідэя ўпершыню паўстала тут на гэтай зямлі, на ўсходняй Беласточчыне. Намаганнямі БГКТ трымаецца ў Польшчы арыгінальная беларуская нацыянальная культура.**

І, сапраўды, доўгія часы, пачынаючы з 1956 года, таварыства было магутнай аб"ядноўваючай сілай і месцам прыцяжэння для беларускіх суайчыннікаў. Але пяцігадовы прамежак паміж XI і XII з"ездамі выдаўся дужа складаным.

Ды што казаць, для каго ён быў простым... Ні Польшча, ні Беларусь узору 1989-га ніяк не падобныя да сучасных, перыяду 93-га. Узгадайма: тады на пачатку перабудовы Беларусь раптам "адкрыла" для сябе, што побач на польскай старане жывуць людзі, каторыя паслугоўваюцца і мовай, і звычаямі, і культурай беларускага роду-племені. І хваля аптымізму пайшла з Беласточчыны на Бацькаўшчыну, стаўшыся часткай адраджэння. А цяпер, як выявілася на з"ездзе, вяртаецца назад бумерангам песімізму. "Калі беларуская мова не прыжываецца там, на Беларусі, то тады навошта яна нам тут?" — неаднаразова ў розных варыянтах гучала гэтая невясёлая думка ў вуснах дэлегатаў з"езда.

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

КРЫЖ НАШ ЦЯЖКІ

## ЦІ ДАЦЯГНЕЦЦА РУКА ДА ДЗІЦЯЧАЙ КАЛЫСКІ?

Пакуль дабіралася амаль на край горада да Дома дзіцяці N 2, мімаволі падумалася: Дом-інтэрнат для дзяцей-інвалідаў знаходзіцца за горадам у Навінках, Дом для састарэлых і інвалідаў размешчаны на ўскраіне Мінска ў Дражні, гэты, куды я еду, таксама далёка ад цэнтра. Выпадковасць ці свядомае жаданне схаваць далей ад вачэй усіх хворых, састарэлых, абяздоленых? Хаця, як гавораць у Доме дзіцяці, галоўную ролю ў яго размяшчэнні менавіта тут адыграў лес. Ён падступае да самага будынка, і, несумненна, ідэя была б выдатнай, калі б лесапарк вельмі хутка не стаў любімым месцам выгулу ўсіх сабак раёна, а летам — яшчэ і "кафэ" пад адкрытым небам, якое гасцінна дае прытулак усім, каму няма дзе выпіць і закусіць. Велізарная аўчарка без павадка і намордніка можа да смерці напалохаць нават дарослага, што ўжо гаварыць пра малых. Да таго ж, малыя, якіх лёс адарваў ад сем'яў, апынуліся тут штучна ізаляванымі і ад навакольнага свету, і самае вялікае дзіва, якое бачылі малыя ў жыцці, — гэта тралейбус. Вось такім чынам непрадуманае жаданне зрабіць добрую справу абярнулася для дзяцей і выхавацеляў шматлікімі праблемамі. Але ж праблемамі тут нікога не здзівіш, бо само жыццё гэтых малых пачалося з трагедыі, і хто ведае, якая чароўная фея патрэбна, каб перарваць ланцуг складанасцей, цяжкасцей і няўдач, што будуць суправаджаць "казённых дзяцей" усё іх далейшае жыццё.

Згадзіцеся, да дзетдомаўцаў большасць людзей ставяцца насцярожана, з недаверам, часам, здараецца, сваім дзецям забараняюць з імі гуляць. На пытанне — чаму так адбываецца і як разарваць гэтае зачараванае кола, нечакана вось гэтай гісторыяй адказала мне галоўны ўрач Дома дзіцяці Алена Бязуглая. Калі яна прыйшла сюды працаваць, мясцовыя падлеткі рабілі сапраўдныя набегі на Дом дзіцяці. Аднойчы вечарам побач зноў з'явіліся хлопцы ў адзенні "металістаў" з дзікімі прычоскамі. Да Алены Аляксандраўны прыбегла перапалоханая дзяжурная з пытаннем, што рабіць. Трэба ратавацца, зачыняць дзверы, іх нельга пускаць сюды. Але галоўны ўрач на гэта адказала: "Калі ідуць — значыць, ім нешта трэба. Ні ў якім разе не выганяць, а калі папросяць —абавязкова пусціць". Яны прыйшлі, аднаму спатрэбілася іголка з ніткай, двум іншым — шклянка вады. Потым хлопцы пацікавіліся, што гэта за дом і хто тут жыве. Алена Аляксандраўна расказала ім пра сваіх дзяцей, правяла па пакоях і, убачыўшы зацікаўленыя і поўныя спачування вочы, запрасіла прыходзіць яшчэ. Больш вокнаў там не білі ніколі.

Вытокі любой нянавісці ці нелюбові трэба шукаць у няведанні. Невядомае — значыць небяспечнае, значыць, на ўсялякі выпадак трэба трымацца як мага далей, а лепш зноў жа, на ўсялякі выпадак, кінуць каменем. Дзеці ж гэтыя, у сваю чаргу, вырастаючы, пачынаюць адчуваць сваю адарванасць ад грамадства і ў адказ на яго нелюбоў у лепшым выпадку адказваюць тым жа.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*БЕЛАРУСЬ—ЛАТВІЯ*

## ПАЦЯПЛЕЛА

Спрыяльныя ўмовы для ўмацавання ўзаемавыгадных сувязей з'явіліся ў Беларусі і Латвіі. 16 чэрвеня паміж дзвюма суверэннымі дзяржавамі падпісана Пагадненне аб гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве на гэты год. Ад імя ўрада яго падпісалі намеснік старшыні Дзяржэканомплана рэспублікі Уладзімір Кандраценка і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Латвіі ў Беларусі Яніс Лоўнікс.

Пасля абмену дакументамі было падкрэслена, што ў абодвух бакоў ёсць добрыя магчымасці для паляпшэння гандлю. Ад нас паступілі прапановы аб павелічэнні паставак рыбы, мікрааўтобусаў, выкарыстанні марскіх партоў. У сваю чаргу пасол перадаў просьбы свайго ўрада. Ён адзначыў гатоўнасць да сумеснага выкарыстання партоў, фарміравання экіпажаў з маракоў, якія жывуць на тэрыторыі Латвіі, здачы ў арэнду суднаў. Высока ацэнена прапанова Беларусі аб удзеле нашай рэспублікі ў рэканструкцыі латвійскіх партоў.

*ДЫПЛАМАТЫЧНАЯ ХРОНІКА*

## БЕЛАРУСКАЕ КОНСУЛЬСТВА Ў ЛОНДАНЕ

Дыпламатычнае прадстаўніцтва Беларусі — Генеральнае консульства — адкрылася ў брытанскай сталіцы. Яго ўзначаліў супрацоўнік Міністэрства замежных спраў рэспублікі Алег Якавіцкі. З гэтага дня ў беларускім консульстве ў Лондане замежныя грамадзяне змогуць атрымаць не толькі візавую падтрымку, але і іншыя консульскія паслугі. Акрамя таго, работнікі консульства будуць займацца ўмацаваннем дзелавых і культурных кантактаў паміж дзвюма краінамі.

*"Мінула два гады з нашага другога з'езда. Тады гаварылася, што мы адарваліся ад мас, забеглі далёка наперад, што народ не гатовы ўспрымаць ідэі БНФ. Гэта было нядаўна, гэта было даўно. Так, спадары, мы тады адарваліся, мы абагналі самі сябе. А што было б, каб мы не перагналі? Тады Фронт не быў бы Фронтам. На мой погляд, у той падсавецкай і гэтай посткамуністычнай Беларусі, дзе пануе каланіяльная псіхалогія і народ ашуканы, палітычны рух, які не ідзе наперадзе, да чалавечай годнасці і народнай свабоды, — такі рух увогуле непатрэбны. Сумесна існаваць у рабстве — гэта не значыць быць разам з народам. Такое існаванне брыдкае. Ідуць за тым, хто сам ідзе. Мы наракаем на апатычнасць ці нацыянальна-культурную індыферэнтнасць грамадства. Але мы паставілі задачу дапамагаць нашаму народу ў яго адраджэнні і развіцці. Мы разумеем, што дзесяцігоддзі калгаснага ладу і савецкая рэчаіснасць не праходзяць бясследна. Нашае грамадства хворае. Яно як той гарбаты, сагнуты ў дугу чалавек, якога нейкімі цудадзейнымі сродкамі спрабуюць разагнуць, але ён супраціўляецца. Ён прывык быць сагнутым. І калі разгінаецца — яму баліць. Ён праклінае такое лячэнне. Але ж іншага спосабу адраджэння, як выпрастацца і стаць народам, — няма".*

*(Са справаздачнага даклада З. ПАЗЬНЯКА "Беларускі народны фронт і развіццё палітычных працэсаў на Беларусі" на III з'ездзе БНФ).*

*У ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"*

## АДСТАЎКА ПРЭЗІДЭНТА

Як стала вядома, народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў пакінуў пасаду ганаровага прэзідэнта Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". На просьбу карэспандэнта газеты "Добры вечар" пракаменціраваць свае адносіны да З'езда беларусаў свету Васіль Уладзіміравіч адказаў:

— Мае адносіны да З'езда беларусаў замежжа вельмі дадатныя. Я думаю, што яны маюць на гэта права, і яны прыедуць. А рознагалоссі, якія мелі месца, адбыліся, так бы мовіць, па палітычных матывах. Я баюся, што пакольки "Бацькаўшчына" там, на з'ездзе, не гаспадар (яна праявіла ініцыятыву, але ўрэшце туды ўмяшаліся іншыя сілы), гэты з'езд будзе выкарыстаны гэтымі сіламі ў антынацыянальных інтарэсах. І тое будзе вельмі сумна. Але маё меркаванне можа быць і памылковым, можа, якраз і нічога, абыдзецца. Многае залежыць ад удзельнікаў, ад прадстаўнікоў дыяспары, якія з'едуцца сюды, — якую яны зоймуць пазіцыю. Прынамсі, гэта не толькі маё прыватнае меркаванне, але і Беларускага народнага фронта, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады.

*ДЗЯРЖАЎНАЯ ГРАНІЦА*

## МЫ ЗНОЎ АПОШНІЯ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў рашэнне аб наданні граніцам Рэспублікі Беларусь з Расійскай Федэрацыяй, Літоўскай Рэспублікай, Украінай і Латвійскай Рэспублікай статуса дзяржаўных. На даным этапе вядзецца распрацоўка міждзяржаўнага дагавора аб граніцах з гэтымі краінамі. Заканчваецца дэлімітацыя беларуска-літоўскай граніцы, парафіраваны адпаведны дагавор паміж Беларуссю і Латвіяй, завершана дэлімітацыя граніц і з гэтай рэспублікай. Расійская Федэрацыя і Украіна таксама прынялі закон аб наданні граніцам сваіх краін статуса дзяржаўных і на гэтай падставе разгортваюць на сваіх рубяжах пагранічныя войскі і мытныя пасты.

Беларусь апошняя з суседніх з намі рэспублік прыняла рашэнне аб граніцы.

*ПАСЯДЖЭННЕ СОЙМУ БНФ*

## НОВЫЯ КАМІСІІ І ЎХВАЛЫ

12 чэрвеня адбылося першае пасяджэнне новаабранага Сойму Беларускага народнага фронта.

На ім прызначана Управа БНФ у складзе 29 чалавек. Сакратарамі Управы сталі Уладзімір Анцулевіч, Вінцук Вячорка, Зміцер Жданок, Віктар Івашкевіч і Сяргей Мурог. Прычым толькі першы з іх ва Управе — чалавек новы.

Створана 14 камісій фронта. Гэта камісіі па культуры, па замежных сувязях, па працы з моладдзю, арганізацыйная, інфармацыйная, мастацка-аздабленчая, па фінансава-гаспадарчых пытаннях, па сувязях з рабочым рухам, па вайсковых пытаннях, па эканоміцы (і ў яе складзе — падкамісія па зямлі), палітычная, камітэт "Дзеці Чарнобыля" (на правах камісіі), група па экалогіі, камісія рэдакцыйная і падрыхтоўкі палітычных дакументаў.

Сойм прыняў ухвалу "За беларускае войска, супраць праследавання патрыятычнага афіцэрства". Сойм БНФ выказаўся за кадравыя змены ў камандаванні Узброеных Сіл рэспублікі, за вяртанне афіцэраў-беларусаў на Бацькаўшчыну, за барацьбу з карупцыяй і злачыннасцю ў войску, за хутчэйшы вывад вайсковых часцей, якія знаходзяцца пад юрысдыкцыяй Расіі, з тэрыторыі Беларусі, а таксама запатрабаваў спыніць праследаванне патрыётаў — сяброў БЗВ.

*КАЛІ?*

## СВАЯ ВАЛЮТА

На сённяшні дзень, паводле звестак БелаПАН, рэспубліка яшчэ не гатова да ўвядзення ўласнай валюты. Пакуль перавезена крыху больш чым палова ад агульнай колькасці купюр. У прыватнасці, беларускай авіякампаніяй "БелЭйр Лтд", якая ажыццяўляе перавозку будучых грошай, выканана 6 рэйсаў, у час кожнага з якіх перавезена каля 45 тон купюр. Астатнюю частку плануецца перавезці за 4—5 рэйсаў. БелаПАН мае таксама звесткі, згодна з якімі, нацыянальная валюта Беларусі друкуецца ў ФРГ, на тэрыторыі Баварыі, пры ўдзеле заходнегерманскай фірмы "Транслінк (Уберой МА) Консульт ГмбХ".

*НОВЫ ЧАСОПІС*

## ПЕРШЫ НУМАР

Ужо надрукаваны першы нумар новага часопіса "Беларуская мінуўшчына". Ён разлічаны не толькі на спецыялістаў-гісторыкаў. Першы нумар знаёміць з працамі вядомых вучоных аб станаўленні беларускай народнасці, пачынаючы з часоў Полацкага княства. Вялікую цікавасць у самага шырокага кола чытачоў выклічуць матэрыялы пра беларускі архіў у Празе і гістарычнае апавяданне аб лёсе першага беларускага генерала Язавітава. Тут таксама многа белетрыстыкі — пісьмаў з асабістых архіваў людзей, якія стаялі ля вытокаў стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі, аб мастацкіх каштоўнасцях, вывезеных з рэспублікі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, разважанні вядомых дзеячаў культуры аб мове, нацыянальнай культуры і духоўнасці.

Шаноўнае спадарства!

8 ліпеня 1993 года ў Мінску, у будынку Дзяржаўнага тэатра оперы і балета адкрыецца Першы з'езд беларусаў свету. З'езд праводзіцца ў мэтах далучэння інтэлектуальнага і эканамічнага патэнцыялу беларускай дыяспары да працэсу адраджэння незалежнай Беларусі.

Арганізатар з'езда — Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" — грамадская арганізацыя з абмежаванымі грашовымі сродкамі звяртаецца да ўсіх свядомых людзей і спадзяецца на Вашу фінансавую падтрымку ў правядзенні з'езда.

Наш р/р N 700307, код 795 у камерцыйным банку "Беларусь" з адзнакай "На з'езд".

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

НАЗІРАЮЦЦА высокія тэмпы ўзаемнага таваразабароту паміж Беларуссю і Польшчай. За мінулы год ён склаў 256 мільёнаў долараў ЗША. За першы квартал гэтага года — 37,4 мільёна долараў.

14 ЧЭРВЕНЯ з аэрапорта "Мінск-2" вылецеў у Маскву "Боінг-737". Гэтым пасажырскім рэйсам, які стане рэгулярным, распачала сваю дзейнасць авіякампанія "Трансаэра". Такім чынам, манаполія "Аэрафлота", відаць, скончылася.

ЯК ПАВЕДАМІЎ генеральны дырэктар "Мінскводаканала" І. Герасіменак, Мінску надоўга хопіць пітной вады. У перспектыве плануецца перайсці на падземныя крыніцы вады. У радыусе 60 кіламетраў ад сталіцы іх запасу павінна хапіць на забеспячэнне жыхароў і харчовых прадпрыемстваў да 2020 года.

ПОЛЬСКАЯ фірма, што займаецца рэстаўрацыяй помнікаў архітэктуры, узялася за рэканструкцыю Брэсцкага вакзала, які, дарэчы, з'яўляецца архітэктурным помнікам. Работы плануецца завяршыць да лета 1994 года. Рэканструкцыя абыдзецца ў 1 мільён 66 тысяч долараў і 32 мільёны рублёў.

ДЗЯРЖАЎНАЯ праграма "Беларусы ў свеце", распрацаваная Акадэміяй навук рэспублікі, ухвалена Саветам Міністраў Беларусі. Пры ўрадзе будзе створаны Каардынацыйны савет па справах беларускай дыяспары. Яго старшынёй зацверджаны Міхаіл Дзямчук, намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларусі.

У МІНУЛЫМ годзе ў Беларусі было зарэгістравана 80 тысяч шлюбаў. Гэта на 16 працэнтаў менш, чым у 1991 годзе. Большасць мужчын жэняцца ва ўзросце 20—24 гадоў, жанчыны выходзяць замуж у 18—22 гады. Разам са скарачэннем шлюбаў расце колькасць разводаў. У 1981 годзе развяліся 31 тысяча пар, у 1992-м — 40 тысяч.

ДЗІНАРА МАЗІТАВА, вучаніца 3 класа Лідскай музычнай школы, напісала ўжо амаль 50 музычных твораў. Цяпер дзяўчынка працуе над операй, якую збіраецца паказаць на рэспубліканскім конкурсе "Надзея-93". Дыплом лаўрэата конкурсу "Надзея-92" у Дзінары ўжо ёсць.

*СПАДАРОЖНІКАВАЯ СУВЯЗЬ*



На "касмічную арбіту" выходзіць Рэспубліканская міжгародняя тэлефонная станцыя з устаноўкай сістэмы аўтаматычнай спадарожнікавай сувязі. З яе дапамогай можна звязацца з Англіяй і Канадай, а праз гэтыя краіны — з Японіяй, Турцыяй, Партугаліяй, Аўстраліяй, Іспаніяй, Ізраілем.

НА ЗДЫМКУ: інжынер Святлана ТАЦЦЯНЕНКА, электрамеханік Тамара КІСЕЛЬ, інжынер Галіна АЛАЧЫНСКАЯ і начальнік цэха Лідзія ХАЛАДЗІНСКАЯ ля прыёмных антэн спадарожнікавай сувязі.

# ЦІ ДАЦЯГНЕЦЦА РУКА ДА ДЗІЦЯЧАЙ КАЛЫСКІ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Яны не горшыя за нас ці нашых дзяцей, яны такія, якімі мы хочам іх бачыць, якімі мы іх самі робім, і што з іх атрымаецца, таксама залежыць ад нас.

Але ж як яны трапляюць сюды? Адкуль? Чаму? Гэтыя дзеці — непатрэбныя. У першую чаргу сваім бацькам, якія ці адмовіліся ад іх з першых жа дзён кароценькага пакуль што жыцця, ці былі праз суд пазбаўлены права выхоўваць сваіх дзяцей, бо далейшае знаходжанне малога ў такой сям"і прадстаўляла небяспеку для яго здароўя і жыцця. Апошнім часам стала расці колькасць дзяцей, якіх бацькі змясцілі сюды часова. Шчыра кажучы, фармулёўка падаецца дзіўнай, бо Дом дзіцяці — не камера для захоўвання, а дзіця — не багаж ці нейкая рэч, якую можна пакласці да лепшых часоў ці тэрмінова забраць. Але ж жыццё неадназначнае, і рознае ў ім здараецца. І калі ў дзяўчынкі 15—16 гадоў нараджаецца дзіця, а ў яе — ні хаты, ні прафесіі, ні работы, з дому выганяюць, падтрымаць няма каму, грошы ўзяць няма адкуль, самае простае і, бадай што, адзінае для яе выйсце — адмовіцца ад дзіцяці і аддаць яго на выхаванне дзяржаве. На такі выпадак і прадугледжана гэтае "часовае змяшчэнне". Глядзіш, пасталее маці, дабавіцца ў яе розуму і самастойнасці, набудзе прафесію, стане зарабляць і ў рэшце рэшт зможа сама клапаціцца аб сваім дзіцяці. Нават гаварыць не трэба, што маці не заменіць ніхто. Дык чаму б ёй, неразумнай, не даць шанц калі-небудзь выправіць сваю памылку? У такім выпадку часовае змяшчэнне малога ў Дом дзіцяці можна з поўным правам лічыць добрай справай і адзіным выйсцем, якое прадухіліць трагедыю і захавае хай не поўную сям'ю.

Але ж здараецца і іншае. Не так даўно тут з'явіўся новы часовы жыхар, у якога, у адрозненне ад многіх, ёсць і маці, і бацька, маладыя, адукаваныя, не п'яніцы, забяспечаныя матэрыяльна. І месца ў невялікай кватэры; напэўна хапіла б усім, калі б не адна акалічнасць, якая змяніла планы сям'і і лёс дзіцяці. Справа ў тым, што немаўлятка нарадзілася без малой бярцовай косці. Дзіця абсалютна нармальнае псіхічна, яму не патрэбна стацыянарнае лячэнне, спецыяльны догляд. Проста трэба яго пастаянна паказваць урачу-артапеду, насіць да кансультантаў, каб вырашыць пытанне аб аперацыі, якая павінна палепшыць стан здароўя малога. Але ж усё гэта, канешне ж, павінны рабіць бацькі, якія спалохаліся цяжкасцей і турбот з хворым дзіцем і вырашылі пазбавіцца ад яго, аддаўшы сюды. Доўга Алена Аляксандраўна размаўляла з маладымі бацькамі, і яны згадзіліся пакінуць тут дзіця часова. Не так даўно яны запыталіся, ці можна ім бываць тут цэлы дзень. Канешне, адказалі ім, такога права пазбаўляць бацькоў ніхто не стане, але навошта тады аддаваць сваё дзіця? Каб спакойна спаць па начах? Не мыць пялёнак? Зберагчы грошы і нервы? Нібы набылі ў магазіне нейкую рэч, а потым разгледзелі, што яна з бракам, і аднеслі назад.

"Што стала з намі? Што з намі зрабілі?" — часта з горыччу ўсклікаем мы і скардзімся на цяжкае жыццё. Вінавацім жа ў гэтым тых, хто хутчэй успомніцца ў такі момант, — камуністаў, дэмакратаў, урад. А можа, усё ж трэба на сябе азірнуцца? Не з неба ж раптам падаюць у Дамы-інтэрнаты дзеці-сіроты пры жывых бацьках і састарэлыя бацькі пры жывых дзецях і ўнуках. Ніякі цяжкі час, палітычны лад ці ўрад не прымусяць па-сапраўднаму маральнага і прыстойнага чалавека зрабіць подласць, абразіць безабароннага, пакрыўдзіць дзіця. А ўвогуле вельмі зручная гэта рэч "наш цяжкі час", пра які нам бясконца нагадваюць газеты, радыё, тэлебачанне, палітычныя і грамадскія дзеячы ў сваіх выступленнях. Усё спіша, усё даруе выгадная фармулёўка. І ўчынкі, якія, здаецца, нічым нельга апраўдаць, з лёгкасцю даруюцца, ды й яшчэ спачуванне выклікаюць. Думаю, справа не толькі ў тым, што цяжкі час нараджае дрэнныя звычкі, а беспрынцыповасць людская і амаральнасць робяць сапраўды нялёгкае жыццё невыносным.

У Доме дзіцяці ёсць нават дзве групы дзяцей з парушэннем цэнтральнай нервовай сістэмы, якія ўжо лічацца інвалідамі. На жаль, традыцыі савецкай педагогікі, якія заўсёды адрозніваліся ад сусветнага вопыту, прадпісваюць трымаць такіх дзяцей асобна, аддзяліўшы ад здаровых, тады як паўсюль іх, наадварот, імкнуцца "перамяшаць". Справа ў тым, што, калі хворае дзіця водзіцца са здаровым ці хаця б пастаянна бачыць яго перад сабой, яно з усіх сіл імкнецца быць такім жа, "дацягнуцца"... Алена Аляксандраўна паспрабавала пераводзіць хворых дзяцей у групы для здаровых і ўпэўнілася, што так яно і ёсць. Дзеці адразу ж, літаральна на вачах, пачынаюць хутчэй развівацца, і хвароба, якая падавалася неадольнай, адступае. Але ж не ўсім гэта падабаецца, і выхавацелі скардзяцца, што такія дзеці патрабуюць больш клопатаў і адбіраюць час, прызначаны для здаровых. Іх таксама можна зразумець: нагрузка павялічваецца. У наступным годзе некаторых з гэтых дзяцей трэба будзе пераводзіць у Дом для дзяцей-інвалідаў у Навінках, але Алена Аляксандраўна ўпэўнена, што калі была б магчымасць удзяліць ім крыху больш увагі і клопату, стан здароўя і лёс дзяцей можна было б змяніць. Але ж адкуль узяць гэта? Некалькі год таму яна спрабавала перавесці маленькую Вольгу, якая нарадзілася без нагі, у звычайны дзіцячы дом, дзяўчынку туды не ўзялі. "Што вы, — адказалі Алене Аляксандраўне, — у нас — аэробіка, танцы, спартыўныя заняткі. Ці зможа дзяўчынка-інвалід адолець такія нагрузкі?".. І хто ведае, што чакала б Вольгу, калі б не цуд, так-так, сапраўдны цуд, пра які мы пагаворым пазней.

— Мне часта даводзілася чуць ад людзей, што да ўсяго можна прызвычаіцца. Гэта не так, паверце, ёсць рэчы, да якіх прызвычаіцца немагчыма. Цяжка нават не таму, што пастаянна бачыш гэтых дзяцей, а таму, што яны ёсць наогул і пастаянна паступаюць сюды. Толькі-толькі я знайшла сям'ю і бацькоў аднаму — і адразу ж з'яўляецца новы. Часам бывае невыносна цяжка... — Алена Аляксандраўна змоўкла і пасля паўзы дадала: — Я стаўлюся да сваёй працы як да выпрабавання, якое мне паслана Усявышнім, як да крыжа, што трэба цярпліва і з годнасцю несці.

У кабінеце Алены Аляксандраўны амаль адразу звяртаеш увагу на іконы. Неяк дзіўна бачыць іх замест звыклых лікаў класікаў і правадыроў, хаця ў гэтым доме строгія твары святых, як нідзе, дарэчы.

— У Бога я паверыла не адразу, — гаворыць Алена Аляксандраўна, жанчына маладая і вельмі прыгожая. — Але ж з цягам часу неяк само самой прыйшло разуменне, наколькі вера дазваляе прасцей і правільней разумець і прымаць жыццё, выпрацаваць правільны погляд на яго, знайсці ў сабе сілы прымаць непазбежнае.

З нядаўняга часу Алена Аляксандраўна пачала запрашаць святара для размовы з усынавіцелямі. Мабыць, у гэтым надзея на тое, што калі не людзі і ўлады звернуць увагу на гэтых дзяцей, дык хаця б Бог успомніць пра іх існаванне... Можна, канешне, запярэчыць мне: і Дамы-інтэрнаты пабудаваны, і цэлыя дзяржаўныя ўстановы займаюцца справамі сірот. І не здзівілася б, калі б раптам высветлілася, што колькасць дарослых, якія вырашаюць іх праблемы, значна перавышае колькасць кінутых дзяцей. Што яшчэ трэба? Мусіць, крышачку нефармальнага стаўлення да справы.

Калі маленькі чалавек трапляе ў дзіцячы дом, галоўнае — вырашыць, вернецца ён яшчэ ў сваю сям'ю ці не. А ў нашым заканадаўстве ніяк не вызначаны тэрміны, у якія бацькі, пазбаўленыя сваіх правоў, могуць іх узнавіць. Вось і адбываецца, што аддаць дзіця ў новую сям'ю ніхто не мае права, а колькі давядзецца чакаць, пакуль працвярэзяцца і ўспомняць пра свае абавязкі сапраўдныя бацькі — невядома. А калі ўсё ж хто і вырашыць усынавіць такое дзіця, таго будзе праследаваць страх, што калі-небудзь яго адбяруць. Так, пазбаўленне бацькоўскіх правоў праз суд — пакаранне страшэннае, але не для тых, хто спіўся, апусціўся, часта так і не зразумеўшы, што з імі адбылося. Больш таго, многія з такіх бацькоў яшчэ і дзякуй скажуць за тое, што ім рукі развязалі і ад лішніх клопатаў пазбавілі. Але ж самае цікавае нават не гэта, а тое, што калі дзіця забіраюць з сям'і, дзяржава захоўвае за ім абавязковыя восем метраў жылой плошчы, якая знаходзіцца, канешне ж, у той жа самай кватэры, дзе працягваюць жыць яго бацькі-алкаголікі. Так што гадоў у 14—15, калі падлетак ў рэшце рэшт пакіне так званую "сіроцкую ўстанову інтэрнатнага тыпу", ён, яшчэ дзіця, асоба, якая не сфарміравалася, з неакрэплай псіхікай у пераходным узросце, трапляе ў экстрэмальныя абставіны, з якімі чатырнаццаць год таму не змог справіцца нават суд. Ці варта пасля гэтага гаварыць пра разумныя законы і патрабаваць іх выканання? Да таго ж, даўно вядома, што недасканалае заканадаўства нараджае злоўжыванні...

Ну ніяк не магла зразумець Алена Аляксандраўна, чаму гэтай маладой і прывабнай жанчыне тэрмінова патрэбна абавязкова дзяўчынка. Чаму — тэрмінова і чаму б не хлопчык? Але адказаць на гэтыя пытанні жанчына адмовілася. Дзяўчынку ёй усё ж такі знайшлі, пачалі афармляць дакументы, і якраз тут і пазванілі ў дзіцячы дом з раённага аддзела народнай адукацыі.

— Лепш было б у гэтым выпадку, — сказаў інспектар дзяржаўнай установы, — аформіць не ўсынаўленне, а апеку.

— Чаму? — здзівілася Алена Аляксандраўна.

— А тады мы зможам дапамагчы гэтай сям'і матэрыяльна, — адказалі ёй.

— Як — матэрыяльна? — канчаткова разгубілася галоўны ўрач. — Яны што, у нястачы жывуць?

Аказалася, што ў гэтай сям'і ўжо было чацвёра сваіх дзяцей, і ўсе — хлопчыкі (вось чаму была патрэбна толькі дзяўчынка). Калі ў доме з'явіцца яшчэ адзін чалавек, іх даход будзе ніжэй афіцыйнай рысы беднасці, і тады яны будуць мець права на дзяржаўную дапамогу.

Шчыра кажучы, нават і не ведаю, што на гэта сказаць, такой дзікай падаецца сітуацыя. А што ж маці? Калі Алена Аляксандраўна запыталася ў яе, як тая збіраецца гадаваць дзяўчынку, маладая жанчына паціснула плячыма і адказала: "Месца хопіць усім".

Падчас нашай размовы я звярнула ўвагу на незвычайныя вялікія альбомы з каляровымі фотаздымкамі, якія ляжалі на стале. Аказалася, што такім чынам афармляюць свае справаздачы-лісты ў Мінск амерыканскія сем'і, якія год таму ўзялі да сябе беларускіх дзяцей-сірот.

Першае, што прыцягнула ўвагу, калі амерыканскія ўсынавіцелі з'явіліся ў Мінску, гэта тое, як сур'ёзна яны паставіліся да сваёй справы. Кожны прыехаў сюды з велізарным пакетам дакументаў, у якім было ўсё, што магло спатрэбіцца, і нават больш. Даведка аб псіхічным здароўі будучых бацькоў, даведка аб тым, што ніхто з членаў сям'і ніколі не прыцягваўся да суда і не мае крымінальнага мінулага, даведка з месца працы і рэкамендацыя кіраўніцтва фірмы, даведка аб даходах сям'і, бо ў Амерыцы ўсынавіць дзіця можна толькі тады, калі дакажаш, што забяспечыш яго ўсім неабходным...

Збіраючыся сюды, гэтыя людзі прадугледзелі літаральна ўсё. Амерыканцы не імкнуліся ўсынавіць абсалютна здаровых дзяцей, хаця і мелі на гэта права. Яны бралі толькі хворых, лёс якіх тут, на Беларусі, быў лёгка прадказальны і незайздросны. І ўжо зараз мы ведаем, што іх прааперыравалі, вылечылі, каму было трэба — зрабілі пратэзы. Памятаеце пра маленькую дзяўчынку-інваліда Волечку, якую адмовіліся ўзяць у наш дзіцячы дом-інтэрнат? Зараз яна жыве ў амерыканскай сям'і, і вось што напісала яе новая маці-адвакат: "Да сваёй новай сям'і і сяброў Вольга прызвычайваецца без праблем. Уся сям'я, уключаючы далёкіх сваякоў, вельмі любіць яе, а ў дашкольнай установе настаўнікі і сябры вельмі клапоцяцца аб ёй. Поспехі дзяўчынкі ў засваенні англійскай мовы проста неверагодныя, у свае чатыры гады яна ўжо самастойна чытае. Не так даўно Вольга атрымала новы пратэз, зараз можа добра хадзіць і скакаць, а на наступным тыдні пойдзе ў танцавальны клас. Вольга — дзіця, якое немагчыма не любіць".

Усе гэтыя словы — пра дзяўчынку, якая, калі б засталася тут, хутчэй за ўсё не ўбачыла б нічога лепшага за Дом-інтэрнат для дзяцей-інвалідаў у Навінках. У канцы справаздачы ўдзячныя бацькі напісалі, што яны мараць прыехаць на Беларусь разам з Вольгай, каб сустрэцца з тымі, хто гадаваў гэтую дзіўную дзяўчынку.

Так, ніхто не збіраецца пазбаўляць нашых дзяцей іх радзімы. Яны захаваюць беларускае грамадзянства да таго ўзросту, калі змогуць свядома вырашыць, якую краіну лічыць роднай. А пакуль што ў амерыканскіх сем'ях вывучаюць беларускую мову, чытаюць беларускія казкі, нават стравы беларускія гатуюць. Многія збіраюцца ў хуткім часе наведаць Беларусь, каб дзеці маглі зноў пабываць на сваёй радзіме. Так што ўмовы для захавання нацыянальнай самасвядомасці ў Амерыцы яны маюць і будуць мець не горшыя, чым іх равеснікі тут.

Гартаю старонкі альбома-справаздачы і не бачу ніводнага твару без усмешкі. Прыгожыя, чысценькія, вясёлыя беларускія дзеці з бел-чырвона-белымі флагамі на ганку амерыканскага доміка, на руках у сваіх амерыканскіх бабуль і дзядуль, іх ужо нельга адразу знайсці сярод амерыканскіх дзяцей... Гэта не проста фотаздымкі, гэта дакументы, аб сапраўднасці якіх сведчаць вясёлыя і бесклапотныя вочы нашых дзяцей. Гартаю старонкі і ўспамінаю дыскусіі аб разбазарванні нацыянальнага генафонду, аб тым, што беларускія дзеці павінны жыць на Беларусі, а не ў Амерыцы, каб захаваліся іх нацыянальныя карані...

Годзе! Што датычыцца генафонду, дык, між іншым, амерыканцы ўзялі на выхаванне дзяцей хворых, інвалідаў, назваць якіх насіцелямі генафонду нацыі ну ніяк нельга. Што ж датычыцца нацыянальных каранёў, дык ці мала ў нас прыкладаў таго, як у эміграцыі яны захоўваліся больш беражліва і лепш, чым тут, на Радзіме. Шкада, што сёння лёсы дзяцей выкарыстоўваюцца дарослымі для сваіх палітычных гульняў, а самі дзеці — як сродак для дасягнення пэўных мэтаў. Да таго ж, дакладна ведаю, што ніхто з выступаўшых супраць гэтых усынаўленняў не прыйшоў у Дом дзіцяці і не ўсынавіў ніводнае дзіця, каб на ўласным прыкладзе прадэманстраваць, як трэба ставіцца да будучыні нацыі. Калі мы не можам забяспечыць нашым дзецям годнага жыцця, давайце хаця б не будзем перашкаджаць тым, хто робіць гэта за нас, бо дзіцяці ўсё роўна, на якой мове размаўляе яго маці, галоўнае, каб яна яго любіла і была побач. А ў доме патрэбны мір і спакой, а дзе будзе гэты дом — у Беларусі ці Амерыцы — не так ужо і важна. І калі дарослыя вырашаюць лёсы дзяцей, ім варта памятаць, што галоўны і адзіны крытэрый — гэта добра маленькаму чалавеку ці не.

Шмат год таму давялося пачуць: рука, што калыша дзіця, — гэта рука, якая правіць светам. Чым толькі ні занятыя нашы рукі! Хто зброю ў іх трымае, хто — шклянку з гарэлкай, а хто ўвогуле хавае іх за спіну, сціснуўшы моцныя кулакі. Да ўсяго яны ў нас даходзяць. Шкада толькі, што да калыскі той ніяк не дацягнемся.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# НА ПЕРАЛОМЕ ЖЫЦЦЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**Запіс на з"ездзе. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы У.СЯНЬКО:**

**— Многае тут будзе залежаць ад таго, як стане развівацца беларускасць, пераўтварэнні ў беларускай дзяржаве, наколькі эфектыўна будзе рэалізоўвацца эканамічная рэформа на Беларусі, у якой ступені Бацькаўшчына будзе дапамагаць беларускай меншасці ў Польшчы.**

Варта дадаць, што гэтая залежнасць абапіраецца не адно на ход унутрыбеларускага аднаўлення. На макраўзроўні яна вызначаецца станам двухбаковых сувязей паміж Польшчай і Рэспублікай Беларусь. На больш нізкім — рэгіянальнымі і грамадскімі сувязямі. І як бы мы ні хацелі, менавіта такі падыход выразна праявіў сябе ў зале пасяджэнняў XII з"езда, на адной шалі гэтых адносін знаходзяцца БГКТ і іншыя беларускія суполкі Польшчы, на другой — Саюз палякаў Беларусі і яго арганізацыйныя структуры. Паводле беларусаў Польшчы, тая другая шаля значна пераважае. Для такіх высноў, відаць, ёсць падставы. Па-першае, дапамога беларускага ўрада польскай нацыянальнай меншасці грунтуецца на добрым заканадаўчым падмурку, Законе аб нацыянальных меншасцях, прынятым Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь. Па-другое, крыха грамадскіх арганізацый у гэтай дапамозе выглядае прадстаўнічай.

Узяць хоць бы школьніцтва. З вялікай цікавасцю я слухаў на канферэнцыі даклад настаўніцы польскай мовы з Гродна. Яна гаварыла аб выкарыстанні ў польскай школе падручніка польскай мовы, стажыроўцы настаўнікаў ва універсітэтах Польскай Рэспублікі і многім іншым (як і аб нявырашаных праблемах). Менавіта гэтая сфера жыццядзейнасці беларусаў на Беласточчыне выклікала ў дэлегатаў з"езда сур"ёзную заклапочанасць. Больш таго, некаторыя ў размове са мной прыходзілі да той парадаксальнай высновы, што ў ранейшай Польшчы беларускае школьніцтва выглядала больш жыццядзейным.

Адно з выйсцяў сярод іншых акрэсліў перад навукоўцамі ў сваім цікавым рэфераце "Праблемы школьніцтва нацыянальных меншасцей Беларусі і Польшчы" А.Пяткевіч (Гродна). А іменна: сінхранізм у развіцці школьнага навучання нацыянальных меншасцей абедзвюх краін.

Гэты прынцып сінхранізму адчуваецца і ў праблематыцы рэлігійнага жыцця.

**Запіс на з"ездзе. Пасол Сейма Польшчы Яўген ЧЫКВІН:**

**— Тут на Беласточчыне, у праваслаўнай царкве, наш народ захаваў сваю тоеснасць. Наша карэннае, духоўнае звязана з традыцыямі і культурай праваслаўя. Мы ведаем, што на Беларусі каталіцкі касцёл вяртае свае святыні. На жаль для беларусаў-праваслаўных, Супрасльскі манастыр ім дагэтуль не перададзены, і нам гэта прыкра.**

Неаднаразова чуў я ад субяседнікаў такі пункт гледжання: калі не вырашыць пытанне аб перадачы манастыра, можа стаць яно балючым нервам беларускай меншасці.

У справаздачным дакладзе з"езду старшыня БГКТ Алесь Баршчэўскі адзначаў, што на працягу пяці гадоў таварыства нярэдка апынаlася ў складаным становішчы. Прычын таму дакладчык бачыў многа: скарачэнне да мінімальнай фінансавай дапамогі з боку Польскай дзяржавы, страта памяшканняў аддзеламі (такая пагроза навісла нават над самой штаб-кватэрай БГКТ), наступ асіміляцыйных фактараў. Сярод іншага — разлад, размежаванне ў беларускіх асяродках, што прывяло да разрастання цэнтрабежных тэндэнцый, да выхаду БГКТ з Саюза беларусаў Польшчы, газеты "Ніва" са складу таварыства, праяўленняў радыкалізму. Наўрад ці будзе разумным так ужо драматызаваць становішча. Урэшце, стварэнне новых плыняў, рухаў, арганізацый у трохсоттысячнай беларускай супольнасці — з'ява аб'ектыўная. Аднак, калі такі працэс адбываецца на платформе бескампраміснасці, то ён можа стацца цяжкім ударам па беларускасці гэтага рэгіёна Польшчы.

І як падзею вялікага значэння трактавалі дэлегаты хутчэйшае адкрыццё беларускага консульства ў Беластоку. З ім звязваюць яны многія свае спадзяванні.

Дык ці ёсць у БГКТ перспектывы? У зале, дзе праходзіў XII з"езд, я бачыў прадстаўнікоў розных узростаў, у тым ліку і моладзь. У гутарцы з людзьмі — палякамі і беларусамі — я не памятаю, каб нехта адмовіў арганізацыі ў будучыні. Нававыбраны старшыня БГКТ Ян Сычэўскі быў настроены ў размове са мной стрымана, але па-дзелавому. Склалася ўражанне, што кіраўнік БГКТ ведае, што і як рабіць.

**Запіс на з"ездзе. Загадчык сектара нацыянальнасцей Упраўлення сацыяльна-культурнага комплексу Савета Міністраў Беларусі Наталля ГОЛУБЕВА:**

**— Разнапланавыя меркаванні, што гучаць на з"ездзе, не носяць характар расколу. Ідзе нармальны працэс пошуку новых падыходаў і накірункаў працы, шляхоў да аб'яднання.**

**У дзейнасці беларускага ўрада з"явіўся новы напрамак — работа з дыяспарай. Стварэнне ў сістэме выканаўчай улады спецыяльнай структуры па справах нацыянальнасцей і замежных суайчыннікаў — гэта не спантанны ўсплёск увагі ці даніна модзе, а заканамернасць. Зроблены ўжо канкрэтныя крокі: прынята і выконваецца дзяржаўная праграма "Беларусы ў свеце", першая ў беларускай гісторыі. Збудавана гэтая праграма на грунце адраджэння беларускасці, у якім вялікая заслуга належыць той частцы дыяспары, каторая здолела захаваць усю прыгажосць аўтэнтычнай беларускай культуры, мовы, не дэфармаваных русіфікацыяй.**

**Урад Рэспублікі Беларусь згодна з праграмай будзе выконваць свае абавязкі па супрацоўніцтву з польскімі землякамі. Маецца на ўвазе і дапамога ў будаўніцтве музея беларускай культуры ў Гайнаўцы, і падрыхтоўка настаўнікаў беларускай мовы для школ і ліцэяў Беласточчыны, і навучанне студэнтаў-суайчыннікаў у ВНУ рэспублікі, і многае іншае.**

З"езд зацвердзіў дапаўненні і папраўкі да статута, якія пашыраюць правы перыферыйных аддзелаў, прыняў шмат іншых рэзалюцый.

Здарылася і пэўная нечаканасць для мяне. Была зроблена заява, што таварыства не будзе накіроўваць пасланцоў на Першы з"езд беларусаў свету. Аргумент — надта малая колькасць запрашэнняў, атрыманых з Мінска, у пераліку на пяцітысячную грамадскую арганізацыю. БГКТ атрымала цяпер дадатковую колькасць месцаў. Справа ўлагоднена?

А што яшчэ можна дадаць, гаворачы аб міжнароднай навуковай канферэнцыі? У ёй удзельнічалі: група навукоўцаў з Мінска на чале з загадчыкам кафедры беларусазнаўства Беларускага універсітэта культуры, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі Іванам Цішчанкам, вучоныя з Гродна, з розных гарадоў Польшчы. Безумоўна, навуковы ўзровень рэфератаў быў неаднолькавы. Аднак галоўны яе плён у тым, што на сустрэчы вучоных даследаваліся тыя праблемы, якія тычацца этнічнага пагранічча і стаяць у парадку дня практыкі жыцця Польшчы і Беларусі: гісторыя, мова, культура, палітыка, адукацыя.

Такога тыпу канферэнцыі дамоўлена ладзіць кожны год. Месцам правядзення наступнай будзе Гродна.

У тыя дні ў будынку БГКТ гучала і песня. Выступіў з канцэртам хор таварыства і фальклорны ансамбль са сталіцы Беларусі "Ліцвіны".

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**



Удзельнікі канферэнцыі ля царквы ў Гайнаўцы. Фота аўтара.



Дзяржаўная граніца Рэспублікі Беларусь.

Фота Э. КАБЯКА.

**УНІКАЛЬНЫ ДАКУМЕНТ**

# ЗНАХОДЦЫ — ПЯЦЬ З ПАЛОВАЙ СТАГОДДЗЯЎ

**Сяргеем Жэмайцісам, супрацоўнікам Расійскай нацыянальнай бібліятэкі (былой Імператарскай, былой імя Салтыкова-Шчадрына), у аддзеле рукапісаў знойдзены унікальны гістарычны дакумент XV стагоддзя — арыгінал Прывілея 1440 года, дадзены Наваградскай зямлі Казімірам Ягелонам, — дакумент, пра існаванне якога гісторыкі нават не здагадваліся, бо ніякіх — ні прамых, ні ўскосных — звестак у іншых помніках даўніны пра яго не мелася.**

**Знаходка Прывілея з'явілася поўнай нечаканасцю не толькі для беларускіх гісторыкаў, але і для навуковай грамадскасці Санкт-Пецярбурга, прадстаўнікі якой сабраліся 1 чэрвеня на сваю першую гадзічную навуковую канферэнцыю, прысвечаную памяці акадэміка Карскага.**

**Канферэнцыя была арганізавана Асацыяцыяй беларусістаў Санкт-Пецярбурга з удзелам навукоўцаў Беларусі. На канферэнцыі і было зроблена паведамленне С.Жэмайціса.**

Прывілей 1440 года і сапраўды унікальны прававы акт, які падмацоўвае іншыя гістарычныя дакументы, у прыватнасці Статут Вялікага Княства Літоўскага, у які амаль без зменаў увайшлі многія артыкулы з Наваградскага Прывілея. Знаходка ўяўляе сабой ліст пергаменту памерам 34 на 41 сантыметр і знешне амаль нічым не адрозніваецца ад шматлікіх падробак ці копій з агульнавядомых старажытных дакументаў, і толькі спрактыкаванае вока спецыяліста, якім з'яўляецца С.Жэмайціс, вызначыла, што гэта не падробка, а арыгінал. Прывілей складаецца з 20 артыкулаў, якія закранаюць розныя аспекты дзяржаўнага, грамадзянскага, крымінальнага і працэсуальнага права XV стагоддзя.

Не менш цікавая і гісторыя дакумента: доўгі час Прывілей захоўваўся ў гарадскім архіве Наваградка, а потым перайшоў да сям'і Маскевічаў. Іхнімі сваякамі былі графы Храптовічы, і, верагодна, праз іх дакумент трапіў у славутую Шчорсаўскую бібліятэку. Але як каштоўнейшы дакумент апынуўся ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы, пакуль не высветлена: ён паступіў у аддзел рукапісаў дэпаспартызаваны і ляжаў неапрацаваным з 1923 года. Толькі дзякуючы навуковай эрудыцыі С.Жэмайціса і яго інтуіцыі, знаходка ўбачыла свет, і застаецца толькі адно, каб увесці дакумент у навуковы ўжытак: надрукаваць ягоны даклад.

Якраз гэта пытанне і паўстала перад усімі ўдзельнікамі канферэнцыі, бо правядзенне яе — толькі першая частка працы, праведзенай пецярбургскімі беларусістамі і іхнімі калегамі з Беларусі, а без публікацыі матэрыялаў канферэнцыя страчвае тую навуковую значнасць, якую яна мае не толькі праз даклад С.Жэмайціса, але і праз выступленні іншых удзельнікаў, да прыкладу, В.Булкіна ("Да пытання аб фарміраванні этнакультурнай прасторы беларусаў"), В.Грыцкевіча ("Крыніцы па гісторыі Беларусі ў фондах ЦДА Расіі"), В.Скалабана ("Дзейнасць акадэміка Карскага па аднаўленню дзяржаўнасці на Беларусі ў 1917—20 гадах") і іншых навукоўцаў як з Беларусі, так і з Санкт-Пецярбурга.

Расійская нацыянальная бібліятэка, якая "прытуліла" канферэнцыю, на вялікі жаль, не мае магчымасці апублікаваць даклады. Застаецца адна надзея — на Беларусь! Толькі хто зоймецца гэтай справай — пытанне, якое патрабуе найхутчэйшага адказу, тым больш, што зроблена гэта будзе на карысць нашай незалежнай дзяржаве. Асацыяцыя беларусістаў Санкт-Пецярбурга і беларускія вучоныя спадзяюцца на станоўчы адказ. Ад каго ён прыйдзе?

**Анатоль КІРВЕЛЬ, сябра МАБ, СПб.**

Лідзія САВІК

# ВЯРТАННЕ

## ЖЫЦЦЯПІС БАРЫСА УЛАДЗІМІРАВІЧА КІТА



Але яны сталі філіяламі польскіх гімназій, дзеля чаго павінны былі пацвердзіць свой новы статус. Ім быў наладжаны супольны матуральны экзамен перад дзяржаўнай камісіяй пад старшынствам прафесара, прарэктара Віленскага універсітэта Масоніуса, прыязнага да беларусаў. Камісія складалася з асобаў, прыйшоўшых звонку, каб захаваць поўную аб"ектыўнасць. Гэта быў экзамен не толькі для вучняў, але і для настаўнікаў. Ён працягваўся два тыдні, былі пісьмовыя і вусныя экзамены. Барыс Кіт пісаў вялікі рэферат на французскай мове па творчасці Шатабрыяна, ён дасканала ўжо тады валодаў беларускай, польскай і французскай мовамі, якія вывучаліся ў гімназіі. Атрымаўшы атэстат сталасці з добрымі і выдатнымі адзнакамі, Барыс Кіт адначасна пацвердзіў і сваё права на стыпендыю і паступленне ва універсітэт, а беларускія гімназіі яшчэ раз даказалі грунтоўнасць сваіх праграм і метадаў навучання, бліскуча вытрымаўшы ўсе выпрабаванні.

### ДЗЕЙНАСЦЬ БАРЫСА КІТА Ў БЕЛАРУСКІМ ШКОЛЬНІЦТВЕ

У верасні 1928 года Барыс Кіт быў залічаны на фізіка-матэматычны факультэт Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторыя. Пераезд у Вільню быў пачаткам аднаго з найцікавейшых перыядаў у яго жыцці. Ён пасяліўся на адной кватэры (каля Вострай Брамы) з Ежы Путрамэнтам, які стаў потым вядомым польскім пісьменнікам. Разам з ім вучыліся аднакласнікі па Наваградскай гімназіі, якія некалі займаліся ў настаўніка Рамановіча: Аркадзь Вярбіцкі (перайшоў пазней у БССР і там загінуў), Язэп Гоцка (расстраляны немцамі ў час вайны за падпольную дзейнасць).

Універсітэт, студэнтам якога стаў Барыс Кіт (скончыў у 1933 годзе са ступенню магістра матэматыкі), быў адным са старэйшых у Еўропе. У 1929 годзе адзначалася 350 гадоў з дня яго заснавання. Тут вучыліся многія выдатныя беларускія і польскія дзеячы, свята захоўваліся ўсе старыя добрыя традыцыі: права экстэрытарыяльнасці (паліцыя не магла ступаць на тэрыторыю універсітэта), перыядычна абіраўся рэктар, які павінен быў адкрываць акадэмічны навучальны год вялікай прамовай на ўрачыстым сходзе студэнтаў і прафесараў (так званы дзень інаугурацыі), калі ўсе збіраліся ва універсітэцкай зале, дзе вісеў агромністы партрэт караля Стэфана Баторыя, а прафесары, дэканы павінны былі апранацца ў тогі.

Пры універсітэце заўсёды існавалі шматлікія студэнцкія арганізацыі, а таксама Беларускі студэнцкі саюз і беларуская студэнцкая карпарацыя "Скарынія". Асноўным грамадскім цэнтрам быў Беларускі студэнцкі саюз, сябрамі якога станавіліся беларусы — студэнты ўсіх палітычных напрамкаў.

Барыс Кіт з першага курса пачаў браць актыўны ўдзел ва універсітэцкім жыцці. Ён уступіў у Беларускі студэнцкі саюз, наведваў сходы такіх беларускіх арганізацыяў, як Таварыства беларускай школы (ТБШ), старшынёй якога быў напачатку Радаслаў Астроўскі, а пазней Рыгор Шырма. Аднак польскія ўлады пільна сачылі за дзейнасцю беларускіх арганізацый. У 1927 годзе яны забаранілі Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду, а ў хуткім часе было забаронена і Таварыства беларускай школы. Рыгор Шырма пасля гэтага заснаваў беларускі хор, якім кіраваў на працягу доўгіх гадоў.

Удзел Барыса Кіта ў беларускім грамадскім руху з самых маладых гадоў — гэта перыяд выспявання ў яго душы патрыятычных настрояў, усведамлення сябе беларусам, якому неабыякавы лёс Бацькаўшчыны, лёс народа. Ён разумеў, што дзеля таго, каб Беларусь стала незалежнай дзяржавай, трэба шмат працаваць, несці веды людзям, пашыраць асветніцкую справу і пачынаць неабходна з арганізацыі беларускага школьніцтва, вучыць маладое пакаленне, прывіваючы ідэі беларускасці, свабодалюбства, адчування нацыянальнай годнасці. Гэтыя свае перакананні ён пачынае ўвасабляць у практычныя, канкрэтныя справы. Яшчэ будучы студэнтам 3-га курса Віленскага універсітэта, ён становіцца настаўнікам Віленскай беларускай гімназіі, выкладчыкам матэматыкі. Адсюль бярэ пачатак найбольш плённы і дзейсны перыяд працы Барыса Кіта ў беларускім школьніцтве. Гады яго настаўніцтва ў гэтай гімназіі (1931—1939) адзначаны барацьбой з польскімі ўладамі за існаванне беларускіх школ. Гісторыя беларускага школьніцтва — драматычная старонка ў нашым асветніцтве. З першых яго крокаў пасля вайны 1914—1918 гадоў, карыстаючыся часовай свабодай, беларускія грамадскія дзеячы і патрыёты змаглі арганізаваць у Заходняй Беларусі каля 300 беларускіх пачатковых школ і 8 гімназіяў. Аднак польскі шавіністычны ўрад, які напачатку нібыта і даў пэўныя дэмакратычныя свабоды нацыянальным меншасцям, у тым ліку і трохмільённым этнічным беларусам, вельмі хутка прыступіў да жорсткай паланізацыі. Была пастаўлена мэта зліквідаваць беларускія школы і гімназіі, ператварыць заходніх беларусаў у палякаў. Віленскі ваявода Бацянскі нездарма выказаўся аднойчы, што ён зробіць ўсё, каб на працягу 10 гадоў ніводнага беларуса тут не засталося. І гэта пагроза пачала ператварацца ў рэальнасць: да 1928 года з 8 беларускіх гімназіяў засталося 4: Радашкоўская, Клецкая, Наваградская і Віленская, а з 1934 працавала толькі адзіная Віленская



**Б. КІТ з унучкай Марынай і праўнукам Маршалам. 1992 г. Бастон, ЗША.**

беларуская гімназія. Дырэктарам яе (гімназія месцілася ў Базыльянскіх мурах на Вострабрамскай вуліцы) быў Радаслаў Астроўскі. Пры гімназіі існаваў інтэрнат, была бібліятэка. Вучыліся ў ёй пераважна сялянскія дзеці з падвіленскага беларускамоўнага насельніцтва, якое было каталіцкім. Яго ў сваіх руках трымала польскае шавіністычнае духавенства, варожа настроенае да беларускасці.

Калі ў 1934 годзе была зачынена Наваградская беларуская гімназія, то Радаслаў Астроўскі, які мужна, адкрыта крытыкаваў польскія ўлады за іх адносіны да беларусаў, паслаў Барыса Кіта, як чалавека найбольш вядомага ў тых мясцінах, каб ён не дапусціў пераходу беларускіх вучняў у польскую гімназію і перавёз усіх жадаючых у Віленскую. У дзень, калі пачаўся перапіс вучняў, Барыс Кіт прыехаў у Наваградак і стаяў цэлы дзень у варотах польскай гімназіі, сустракаў вучняў-беларусаў, агітуючы іх ехаць вучыцца ў Вільню. Большасць з іх згадзілася з прапановамі беларускага настаўніка. Мясцовы дырэктар польскай гімназіі, даведаўшыся аб "крамольнай" дзейнасці Барыса Кіта, паслаў на яго данос вышэйшым школьным уладам Віленскай акруговай школьнай кураторыі, да якой належаў і Наваградскі павет. Куратарам тады быў пан Шэленгоўскі — на шчасце, адзін з апошніх ліберальных дэмакратаў (хутка яго знялі з гэтай пасады). У даносе гаварылася нават пра тое, што Барыс Кіт сваімі дзеяннямі падарваў асновы польскай дзяржаўнасці. Аднак, разабраўшыся ў справе, Шэленгоўскі парваў данос і сказаў, што Кіт паступіў як сапраўдны беларускі патрыёт.

Разам з Шэленгоўскім адышлі з польскай адміністрацыі і іншыя палякі-дэмакраты. Іх месца занялі польскія шавіністы, накшталт віленскага ваяводы Бацянскага. Калі ён наведваў Віленскую беларускую гімназію, то заўсёды рабіў заўвагу, чаму, замест партрэтаў Адама Міцкевіча і Юлія Славацкага вісяць партрэты Янкі Купалы, Якуба Коласа, быў незадаволены, што тут усе гавораць па-беларуску, спрабаваў нават сярод вучняў займець даносчыкаў, якія б дакладвалі яму, што гавораць на сваіх уроках беларускія настаўнікі-патрыёты.

Пад канец 30-х гадоў шавіністычная польская атмасфера, у якой знаходзіліся беларускія асяродкі, стала невыноснай. Беларускі актыў вырашыў паслаць у Варшаву дэлегацыю ў складзе Р.Астроўскага, Глінскага і Б.Кіта, каб паведаміць польскім вышэйшым уладам, у якім становішчы знаходзіцца беларуская гімназія ў Вільні, тым больш, што ёй кожны год пагражалі закрыццём. Аднак гэта дэлегацыя нічога не дабілася, наадварот, стала яшчэ горш. Ніжэйшае начальства, на ўзроўні кураторыі, было незадаволена скаргамі беларусаў і пачало рабіць больш рашучыя захады, каб наогул ліквідаваць апошнюю беларускую гімназію. Звольнілі спачатку дырэктара Р.Астроўскага і перавялі яго настаўнікам матэматыкі ў адну з польскіх гімназіяў у Лодзь, а беларускую гімназію, якая на той час ужо была філіялам польскай, пачалі цалкам пераводзіць на польскую мову. Дзеля гэтага зрабілі выгляд, аднак, што патрабуецца фармальная згода бацькоў вучняў беларускай гімназіі. Ваявода Бацянскі паслаў сваіх падначаленых, якія то пагрозамі, то ўсялякімі абяцанкамі сабралі патрэбную колькасць подпісаў. Кураторыя адправіла гэтыя так званыя патрабаванні бацькоў у міністэрства асветы ў Варшаву. Загад міністэрства аб пераводзе беларускай гімназіі на польскую мову прыйшоў неадкладна. Ён фактычна ліквідаваў беларускую гімназію ў Вільні. Але загад гэты быў атрыманы ў верасні 1939 года, калі пачалася другая сусветная вайна, і Польшча перастала існаваць пад ударамі нямецкіх войскаў.

Падзеі імкліва нарасталі: 17 верасня Чырвоная Армія заняла ўсходнюю Польшчу разам з Вільняй. Польская школьная адміністрацыя спыніла сваё існаванне. Яе месца заняла беларуская пад кіраўніцтвам Францішака Грышкевіча, які па жаданню вучняў і іх бацькоў прызначыў Барыса Кіта дырэктарам Беларускай гімназіі ў Вільні (1939).

Нягледзячы на цяжкія перыпетыі лёсу, беларуская гімназія і ў свае апошнія гады заставалася цвярдыняй беларускага духу. І вучні, і настаўнікі жылі ідэяй нацыянальнага адраджэння, тут лунала сама гісторыя, шырока, урачыста адзначаліся беларускія нацыянальныя святы, найважнейшыя даты, праводзіліся вечары сустрэч, акадэміі ў гонар Слуцкага паўстання, угодкаў 25 Сакавіка, аздобленыя беларускімі нацыянальнымі сімваламі. Працавалі шматлікія мастацкія, фальклорныя гурткі. Моладзь гаварыла на роднай мове, хаця ў гімназіі, якая мела гуманітарны ўхіл, вывучаліся лацінская, славянскія, еўрапейскія мовы. Тут працавалі вядомыя ў беларускім Адраджэнні людзі: Максім Гарэцкі, Аркадзь Смоліч, Антон Грыневіч, Сяргей Паўловіч, Рыгор Шырма. Новы дырэктар няўхільна прытрымліваўся гэтых традыцый. Але прыбаўлялася шмат новай работы ў сувязі з незвычайнымі абставінамі. Прыбывала немалая колькасць вучняў з розных частак Заходняй Беларусі —даводзілася адчыняць больш інтэрнатаў, каб забяспечваць навучэнцаў усім неабходным, і найперш — жыллём. Трэба было шукаць новых выкладчыкаў і выхавацеляў. Аднак у хуткім часе Вільня і ўся Віленская акруга, дзе спрадвеку большасць насельніцтва — беларусы, адышла пад Літву (снежань 1939 года). Дзеці беларусаў з Наваградка складалі асноўную частку выхаванцаў Віленскай гімназіі. Таму на агульным сходзе было вырашана, каб дырэктар зрабіў усе магчымыя захады для пераводу гэтых вучняў у Наваградак і аднавіў працу Наваградскай беларускай гімназіі.

І Барыс Кіт пачаў дзейнічаць. Спачатку ён паехаў да начальніка Наваградскай акругі Арцемія Пятровіча Саўчанкі, паведаміў усе абставіны, расказаў гісторыю Наваградскай беларускай гімназіі, будынак якой пасля яе закрыцця ў 1934 годзе быў забраны польскімі ўладамі. А між іншым яго будавалі самі вучні з дапамогай бацькоў. Агульнымі намаганнямі гімназія ў Наваградку была зноў адкрыта, і яе дырэктарам стаў Барыс Кіт. Колькі трэба было мець цярпення, сілы духу, перакананасці ў святасці і неабходнасці справы, якой ён самааддана служыў, каб цяпер зрабіць ужо адваротнае: перавезці віленскіх гімназістаў у Наваградскую гімназію, як некалі перавозіў наваградскіх у Віленскую. І зрабіў ён гэта на працягу тыдня: перавёз, уладкаваў у інтэрнат, наладзіў нармальны вучэбны працэс.

Як толькі разышлася чутка пра адкрыццё беларускай гімназіі ў Наваградку, з акаляючых вёсак і мястэчак адразу пайшлі ў яе запісвацца вучні-беларусы. Маладому дырэктару ўдалося сабраць таленавіты настаўніцкі калектыў, дзе працавалі, між іншым, Леанід Барысаглебскі (быў прафесарам БДУ ў Мінску), Аляксандр Орса, Наталля Орса і іншыя беларускія настаўнікі. Сярод вучняў і выкладчыкаў панаваў вялікі энтузіязм. Гэта быў адзін з лепшых і плённых перыядаў у гісторыі беларускай гімназіі. У сваёй дырэктарскай, адміністрацыйнай працы Барыс Кіт шмат у чым наследаваў лепшым яе былым дырэктарам, якіх высока цанілі беларускія настаўнікі і моладзь, падтрымліваючы іх барацьбу, адстойванне інтарэсаў беларускага школьніцтва і наогул беларускай справы. Яго нястомныя намаганні на карысць асветніцтва, актыўная дзейнасць Барыса Кіта як сябра Таварыства беларускай школы, Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, паплечніка многіх беларускіх дзеячаў, выкладчыцкая работа, клопаты пра дабрабыт вучняў — усе гэтыя шматлікія абавязкі не далі яму магчымасці прымаць удзел ні ў якіх партыях.

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 22—24.**

# МАСТАЦТВА ПАТРАБУЕ ВЕРНАСЦІ

**— Тамара Мікалаеўна, вы нарадзіліся ў Самары, скончылі Маскоўскую кансерваторыю, а сталі беларускай спявачкай, народнай артысткай рэспублікі, амаль трыццаць гадоў выступалі на беларускай сцэне, выхоўвалі і выхоўваеце маладых спевакоў. Як жа вы трапілі ў Мінск, з якімі думкамі ехалі сюды і якімі былі першыя вашы ўражанні?**

— У 1943 годзе я скончыла дзесяцігодку ў Самары і паехала ў Маскву. У Мінск трапіла адразу пасля кансерваторыі. Калі першы раз села ў поезд, рыдала так, што ў мяне вачэй не было відаць. Жыццё маё скончылася, думала я. І сапраўды, пажыць у Маскве, паварыцца ў тым саку... Вялікі тэатр, Малы тэатр, МХАТ, Вялікая зала кансерваторыі, зала імя Чайкоўскага. Уяўлялася: самы цвет мастацтва там. А тут, як прыехала, матухна мая, яшчэ горш стала: усё разбіта, разбурана, я ніколі такога кашмару не бачыла. Па горадзе паўзе адзіны трамвай да Круглай плошчы. Нашы рэчы везлі на кані, а самі мы ішлі пешкі, таму што да тэатра ніякі транспарт не хадзіў.

**— Гэта ж які год быў?**

— 1949-ты... У Мінску на мяне жахлівае ўражанне зрабілі масты. Яны былі разбітыя, а рака завалена металаломам — каскі, кулямёты. І тэатр звонку таксама абшарпаны, аблезлы... Але калі я ўвайшла ў яго, мяне ахапіла хваляванне. Тэатр унутры быў і тады прыгожы, і я адчула, што трапіла ў Храм. Я ўсё жыццё з трапятаннем адносілася да мастацтва, дзе б і калі б я ні была. Яно для мяне як прычасце. І яму я ўсё жыццё служыла верай і праўдай.

Я прыехала і захварэла на ангіну, ледзь стаяла на нагах, страшна было падумаць, што трэба выйсці на сцэну, а Ларыса Пампееўна Александроўская сказала: "Куй жалеза, пакуль гарачае". І я на дрыжачых нагах выйшла на сцэну і спявала. Я выступіла ў "Севільскім цырульніку" і праз некалькі месяцаў паехала ў Албанію. Там спявала і выкладала, выхоўвала моладзь. Праз два з паловай гады вярнулася сюды ўжо з вопытам, спрактыкаваная. Многа выступала. І ў гэты час я ўпершыню пачула цымбалы. Яны мяне зачаравалі сваімі гукамі. Пра мяне даведаўся Жыновіч і запрасіў выступаць са сваім аркестрам. Ад яго я пачула беларускую песню, беларускую музыку, беларускую мову. Яны мяне пакарылі на ўсё жыццё.

**— Але ж Жыновіч працаваў не ў тэатры!**

— Я проста многа гастралявала з яго аркестрам. Светлая памяць Іосіфу Іосіфавічу і вечная мая ўдзячнасць. Я спявала рускія, беларускія, украінскія песні, арыі з аркестрам спявала. Жыновіч быў цудоўны музыкант, для мяне — бацька родны. А Ларыса Пампееўна — маці, роданачальніца беларускай оперы. Нездарма цяпер існуюць конкурсы імя Жыновіча і імя Александроўскай.

**— Раскажыце, калі ласка, пра Александроўскую, як вы ацэньваеце яе ўклад у беларускае опернае мастацтва?**

— Ларыса Пампееўна — гэта фігура нумар адзін. І вакол яе ўсё завязалася. Я так лічу. Яна была таленавітым чалавекам, самародкам, прыгожай жанчынай, разумніцай. Вакол яе сабраліся таленавітыя людзі і стварыўся тэатр. Сама Ларыса Пампееўна была выдатнай спявачкай, цудоўнай Аксінняй і цудоўнай Кармэн.

Мы, моладзь, яе вельмі любілі і знаходзілі з ёю паразуменне, таму што заўсёды чулі ад яе ласкавае слова, бачылі добразычлівасць. Памятаю, я спявала ў "Рыгалета", а Ларыса Пампееўна спяшалася на поезд, яе чакала машына. Яна сказала: "Я павінна паслухаць, як ты праспяваеш другі акт". Я праспявала, бягу за кулісы, яна пацалавала мяне, сказала "малайчына" і толькі тады паехала.

**— Александроўская не толькі спявала, але і ставіла спектаклі...**

— Так, яна паставіла "Дзяўчыну з Палесся" Цікоцкага і "Страшны двор" Манюшкі, дзе спявала і я. Оперы ішлі з вялікім поспехам. Сапраўдны трыумф чакаў іх на Дэкадзе ў Маскве ў 1955 годзе. Я з ёю як з рэжысёрам працавала ў "Травіяце" Вердзі.

**— А хто са славутых беларускіх спевакоў быў вашым партнёрам тады?**

— Мне нялёгка працавалася, бо не было ў той час у тэатры старэйшай спявачкі майго плана, і мне не было ў каго вучыцца. Але была Млодэк, абаяльная Соф'я Друкер, маімі партнёрамі былі Міхаіл Дзянісаў, Ісідор Балоцін. Гэта людзі з вялікім вопытам. А як я любіла Мікалая Сярдобава, цудоўнага Фігара і Жэрмона. Які артыст, колькі ў ім высакароднасці!

**— Пасля Александроўскай змянілася ў тэатры некалькі пакаленняў. Цяпер там ужо спяваюць, мусіць, вашы вучні?**

— Спяваюць. І кожнае пакаленне ўносіць у гісторыю тэатра свой уклад, пакідае добры след. Цудоўныя кадры прыйшлі, нашы, беларускія. Гэта Саша Кедавa, Шведава, Грыгорчык, Тузлукаў, Цішына Оля, Віктар Скорабагатаў. Спевакі вельмі добрыя, і магчымасці ў іх не тыя, што былі ў нас. Кожны з іх сам сабе наладжвае гастролі, а мы не маглі нікуды прабіцца. Пачытайце Галіну Вішнеўскую. Вось і мы знаходзіліся ў такім жа становішчы.

**— А беларускім спевакам яшчэ цяжэй, чым маскоўскім, было куды-небудзь выехаць...**

— Зусім немагчыма часам. Мне больш за іншых удавалася выязджаць, таму што я вучылася ў Маскве і ў мяне былі старыя сувязі, знаёмыя.

Тады, цяпер... Мы многае параўноўваем, бо толькі так можна спазнаць ісціну. Яна, мусіць, як заўсёды, недзе пасярэдзіне.

Дык вось, цяпер ездзяць часцей і больш, але паездкі гэтыя надзвычай цяжкія. У аўтобусе па некалькі сутак, кожны дзень спектаклі, а плацяць капейкі. Цяпер лягчэй заключыць кантракт, выехаць за мяжу, а перад тэатрам паўстаюць праблемы, яго калоціць, таму што спачатку аднаго няма, потым другога. З людзей, адданых тэатру, прафесійна моцных, варта стварыць касцяк, астатнія — гастралёры. Добра, калі артысты любяць свой тэатр, а рэжысёр, дырыжор адукаваны вакальна, шануе голас, артыста.

Вы толькі не падумайце, што я ўсё падвяргаю крытыцы. Мой погляд — гэта погляд чалавека з вопытам, які бясконца адданы мастацтву і пакутуе душой за яго. У сучасным тэатры многа цікавага і значнага. Балетная трупа вельмі моцная. Елізар'еў проста малайчына. І балерыны, і танцоўшчыкі цудоўныя.

**— А опера ўжо больш не выклікае ў вас таго трапяткога пачуцця, з якім вы пераступілі ўпершыню парог беларускага тэатра?**

— Проста часам бывае прыкра, што людзі не працуюць так, як павінны былі б працаваць. Можа, мы ў нечым былі горшымі за іх, сённяшніх, а яны ў нечым вышэйшыя за наша пакаленне, і галасы ў іх лепшыя, але ў тэатры павінна быць дысцыпліна і ўсё выдатна арганізавана. Нядаўна прыйшоў новы дырэктар, Сяргей Картэс, разумны, інтэлігентны чалавек. Спадзяюся, яму многае ўдасца змяніць да лепшага.

**— Вы часта ходзіце ў оперу. Ці не склалася ў вас уражанне, што і публіка ў апошнія гады таксама змянілася?**

— Я і кажу, што ўсё стала іншым. Цана білетаў жахліва высокая.

**— Мы яшчэ студэнтамі часта хадзілі ў тэатр, таму што нам гэта падабалася. Потым з'явілася нейкае штучнае распаўсюджванне білетаў...**

— А памятаеце, быў час, калі ў партэр пускалі толькі ў вячэрніх туалетах?

**— Гэта было нядоўга.**

— Але гэта было прыгожа. Кожная жанчына адчувала сябе дамай. А гэта так урачыста і добра.

**— Зараз ходзяць у штанах.**

— І ў ботах. Ідуць проста з працы, у буфеце жуюць. А ў оперу не трэба хадзіць часта. У оперу ходзяць раз у месяц, але гэта свята. Опера не можа быць паўсядзённай, як магазін, дзе купляюць хлеб і мяса. Паўсядзённым не можа быць і мастацтва. І яму не патрэбны ахвяры. Мастацтва патрабуе вернасці.



**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**



**Выкладчык універсітэта з Галандыі Ларыса Бекерынг, па паходжанню беларуска, зацвердзіла фонд Чарніна (прозвішча па бацьку) для дзяцей Беларусі і Расіі. Ён прызначаны для заахвочвання таленавітых дзяцей. Нядаўна Бекерынг прывезла прэміі і падарункі выхаванцам дзіцячай студыі Першамайскага раёна Мінска за лепшыя работы.**

**НА ЗДЫМКУ: Саша ПАВАРКОВА атрымлівае першую прэмію за свае малюнкі.**

# ПАБАГАЦЕЛА І ПАСВЯТЛЕЛА ДУША

**Спадзяёмся, чытачы нашы не абмінулі ўвагай публікацыю "Белая музыка беларускай паэзіі" ("Голас Радзімы", N 21 за 27.05.1993). Як адзначалася, гэта фрагмент пасляслоўя, напісанага прафесарам доктарам Міадрагам Сібінавічам да анталогіі, што мелася выдавацца ў Бялградзе. І вось, нягледзячы на ўсе цяжкасці, кніга выйшла. Асобам і арганізацыям, зацікаўленым у яе набыцці, паведамляем адрас выдавецтва: Српска кнiжевна задруга, СР Іугославиi, 11000 Београд, Српских владара, 19. А як першы водгук на гэтую падзею публікуем своеасаблівую рэцэнзію — ліст вядомага сербскага крытыка Мiларада Блэчыча да ўкладальніка анталогіі Івана Чароты.**

Вось, нарэшце, (...) перад чытачамі выключна змястоўнае і гожа аформленае выданне. Яго выхад, несумненна, з'яўляецца важнай датаю для мастацтва слова і Беларусі, і Сербіі. Што да ўласна беларускага, у кнізе прасочваецца і выразна акрэсліваецца пяцісотгадовы плён паэтычнага мыслення і моўнай творчасці. А ў дачыненні да нас (...) найлепшым чынам выявілася, якія мы роднасныя, колькі маем агульных тэм, матываў, перакрыжаваных гістарычных успамінаў. Апроч таго, сербскія паэты, крытыкі, гісторыкі і тэарэтыкі літаратуры, а найперш, вядома, чытачы запамятаюць анталогію па яе універсальных мастацкіх вартасцях.

Я, дарагі мой сябра, гэтаксама як і ты, жыву ў жорсткі час. Ды ў мяне, як у чалавека і чэсніка эстэтычнага, душа прыкметна пабагацела і пасвятлела ад каштоўнасці, разнастайнасці і хараства паэзіі твайго народа, хоць многія творы анталогіі распавядаюць пра змрочныя бакі жыцця і гісторыі, адлюстроўваюць праўду і крыўду як даўнейшых, так і навейшых часоў. Я ўпэўнены таксама, што (...) анталогія абавязкова будзе ўплываць на развіццё паэтычнага мыслення нашай маладой творчай генерацыі. Усё гэта дае мне падставы шчыра, па-брацку радавацца, што (такая) кніга выйшла на мове майго народа.

Важныя якасці, змястоўныя і эстэтычныя, а таксама ў перастлумачэнні моўных сродкаў, анталогія набыла дзякуючы вопыту і таленту нашага агульнага сябра прафесара доктара Міадрага Сібінавіча. Бясспрэчна, і гэта трэба падкрэсліць, што, акрамя выбраных аўтараў і ўкладальніка, ён надаў асаблівую азнаку гэтай кнізе сваімі проста цудоўнымі перастварэннямі паэтычных малюнкаў і моўных выразаў. Можна сказаць, што прафесар Сібінавіч выканаў тут сапраўдную сербскамоўную пазалоту, спасцігнуўшы існасць беларускага песнярства і задуму кнігі. Анталогія "задыхала" праз ягоную душу, і вершы, як сказаў бы Пастарнак, "зарухаліся", адчулі "ножкі", і цяпер ужо іх не спыніць на шляху да новых чытачоў.

Гэта (...) мае шчырыя перакананні; у выказаным ніводнага выпадковага ці неабдуманага слоўца.

**МІЛАРАД БЛЭЧЫЧ.**

Бялград, 9 мая 1993 года.

## АДРАДЖАЮЧЫ ТРАДЫЦЫІ





**Беларускі цэнтр гульні і цацкі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь заняты вельмі сурʼёзнай справай. Вядома ж, што самыя перадавыя і найбольш эфектыўныя методыкі педагогікі засноўваюцца на гульні. І наколькі пазнавальныя і эмацыянальныя забавы, настолькі лёгка праходзіць працэс выхавання. Таму адраджэнне раней вядомых і забытых сёння гульняў, стварэнне новых — важнае звяно ў выхаваўчай рабоце дзіцячых устаноў усіх узроўняў. Тут дапамога Цэнтра гульні і цацкі вельмі актуальная. Яна выяўляецца не толькі ў метадычных дапаможніках, але ў выставах і кірмашах, якія часта праводзяць тут.**

**Супрацоўнікі цэнтра распрацавалі праект батлейкі, а малое прадпрыемства "Румб" узялося за выраб гэтага міні-тэатра. Лялькі ж для спектакляў робяць цудоўныя майстры — Марына і Андрэй Сярэбранікавы. Шкада, што не ўсе распрацоўкі цэнтра ўвасабляюцца ў матэрыяле — няма пакуль жадаючых узяцца за іх выраб.**

**НА ЗДЫМКАХ: Марына СЯРЭБРАНІКАВА і яе лялькі; у Цэнтры гульні і цацкі ідзе паказ батлеечнага спектакля.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

*СПАДЧЫНА*

# АД ПЕРШАЙ БАРАЗНЫ ДА АПОШНЯГА СНАПА

За шматвяковую гісторыю беларускія хлебаробы накапілі багаты вопыт працоўнай дзейнасці. Іх земляробчы каляндар увасобіў мнагалетнія назіранні за сезоннымі феналагічнымі зменамі — прылётам з выраю птушак (жаўранка, гусей, бусла і інш.), цвіценнем розных раслін, калашэннем збажыны, станам надвор'я ў пэўныя дні, якія ўвязваліся ў адзіным прыродным і працоўным рытме, суадносіліся паміж сабой у паслядоўныя ланцужкі ўзаемных апрычыненых сувязей і ўтрымлівалі шэраг мудрых парад і прагнозаў, неабходных у паўсядзённай гаспадарчай дзейнасці. Кожнае з такіх назіранняў і прыкмет знаходзіла сваё выяўленне ў крылатых афарызмах, красамоўных прымаўках ці прыказках, што ўтвараюць цэлыя "россыпы" народнай мудрасці і адлюстроўваюць вобразны склад мыслення народа, яго дасціпнасць, кемлівасць, тонкі гумар.

Каляндарны год для селяніна пачынаўся вясной (менавіта на сакавік да 1492 года прыходзілася афіцыйнае святкаванне Новага года па праваслаўнаму календару), прычым пунктам адліку служыла не астранамічная дата, а наяўныя прыкметы вясны, адпаведны стан надвор'я ("год на год не прыходзіцца"). Калі лес надзяваў зялёны свой убор, калі прыляталі з выраю птушкі, калі пчолы вылятал з вулляў, а па вечарах з ручаін і балот даносіўся дружны, многагалосы хор вадзяных жаб, тады ўжо сама прырода нібы давала селяніну "санкцыю" на пачатак земляробчых работ. Калі ж зязюля неспадзеўкі закукуе на голы лес, гэта выглядала анамальнай з'явай і ўспрымалася ў народзе як прадвеснік няшчасця: год чакаўся неўраджайным, галодным. Іншая справа, калі ў красавіку ці маі шмат вільгаці: "красавік з вадою — май з травою"; "мокры май — будзе жыта, як гай".

Асобая ўвага ў сістэме прыкмет, павер'яў і сімволіка-абрадавых дзействаў надавалася вясновым старажытнаславянскім святам — Благавешчанню (Звеставанне, 7 красавіка), Вялікадню, Юр'ю (Георгій, старажытны Ярыла, 6 мая), Міколу (22 мая), Ушэсцю, Сёмусе (Духа, Тройца). Згодна павер'ю, да Благавешчання нельга было трывожыць сон зямлі: забіваць кол, капаць агарод, ставіць слупы, гарадзіць плот — не тое, што араць ды сеяць ("на Благавешчанне нават птушка гняздо не ўе"). Калі пчолы не вылятаюць з вулляў да Благавешчання, паводле народных прыкмет, павінна быць цёплае, ураджайнае лета; дажджлівае надвор'е ў гэты дзень абяцала грыбное лета і ўраджай на азімыя. Ва ўсходняй Беларусі на Благавешчанне ачышчалі зямлю ад смецця, палілі вогнішчы, вадзілі карагоды, пелі вяснянкі.

Да веснавой сяўбы селянін рыхтаваўся яшчэ ўзімку: рупліва адбіраў лепшае насенне, вырабляў сявенькі і кошыкі, ткаў мешкавіну, чыніў вупраж, рыхтаваў колы, ладзіў саху, барану, сахор і інш. Сельскагаспадарчая праца ў традыцыйным светаўяўленні была прасякнута пафасам веры ў яе магічную, жыццесцвярджальную сілу і арганічна звязана з устойлівай сістэмай земляробчых традыцый, звычаяў, абрадаў, культаў, што сягаюць сваімі вытокамі ў дахрысціянскую эпоху. "Увесь гаспадарчы год, — пісаў яшчэ ў пачатку XX стагоддзя Ф. Кудрынскі, — у свядомасці беларуса да гэтага часу асветлены моцным міфічным святлом. Беларус не проста апрацоўвае зямлю, а амаль што свяшчэннадзейнічае ў кожным сваім земляробчым акце. Вясновая апрацоўка зямлі, ачышчэнне глебы ад наносных элементаў, пачатак сяўбы, пасадка агародніны, уборка збожжа з палёў, травы з лугоў... усё суправаджаецца адпаведнымі абрадамі, песнямі, прымаўкамі, у якіх разам з хрысціянскім пачаткам дзіўным чынам яшчэ гучаць старажытнаязычніцкія паданні". Лянота ці абыякавасць у час вясновых работ ці ўборкі ўраджаю расцэньваліся ў сістэме народнай маралі як адны з самых "цяжкіх, смяротных грахоў".

Першы выхад у поле (заворванне, запашка, першая баразна) быў для селяніна сапраўдным святам. У гэты дзень араты ўставаў рана на золку, нетаропка мыўся чыстай крынічнай вадой, даставаў з куфра (ці кубла) новую кашулю. Гаспадыня збірала ў дарогу рытуальны скарб — асвячоную ў царкве ваду, хлеб, соль, яйкі. Вада і хлеб у славянскай абраднасці служылі абярэгамі: яны аберагалі ад нячысцікаў і дурнога вока і перадавалі сялянскай ніве сваю першародную энергію і жыццёвую сілу. Свянцонай вадой акраплялі рабочых валоў (ці коней) перад заворваннем. Часам араты, паставіўшы валоў на першую баразну, даваў ім толькі панюхаць рытуальны хлеб, прыгаворваючы: "Тады з'ясцё і сап'яцё, як заробіцё". У гэты дзень селянін араў нядоўга і, апрацаваўшы адзін загон ці нават зрабіўшы некалькі бароэнаў, вяртаўся дахаты, дзе яго чакаў святочны стол. Напярэдадні гаспадыні выпякалі абрадавае печыва, гатавалі мясныя вырабы, яйкі, якія асвячалі ў мясцовай царкве. Пячэнне ў форме розных земляробчых прылад — раздвоенай сахі, бараны, сярпа і інш. — выпякалася і ў дзень заворвання.

Нягледзячы на адзіныя семантыку і сімволіку абраду заворвання, яго паасобныя фазы і рытуальныя формы мелі свае прыватныя адрозненні ў розных рэгіёнах Беларусі, адлюстроўваючы экалогію мясцовай культуры, бытавыя абставіны, творчае ўвасабленне і ўласнае асэнсаванне агульных норм земляробчай абраднасці. У паўночна-ўсходняй Беларусі напярэдадні ворыва сяляне чыста мыліся з вечара ў добра нацепленай лазні. Араты адпраўляўся ранкам у поле, пагрузіўшы на воз саху і паставіўшы кошык з рытуальным хлебам, свечкай, галінкамі вярбы, акропленымі свянцонай вадой; перад заворваннем ён тройчы абыходзіў з вярбой свайго каня і са словамі: "Блаславі, Божа, у час добры!" пачынаў араць. Існавала павер'е, што поле дасць лепшы ўраджай, калі будзе ўзарана сахой, якая зроблена з розных парод дрэва: плаха-расоха — з бярозы ці клёну, адвал-паліца — з дубу ці бярозы, аглоблі (вобжы) — з хвоі і інш.

У заходнім Палессі (Кобрынскі павет) араты адпраўляўся першы раз у поле на захадзе сонца, загарнуўшы ў чысты ручнік у дарогу хлеб, соль і грамнічную свечку (асвячоную ў царкве ў дзень Грамніц, ці Стрэчання); разаслаўшы ў полі на мяжы ручнік, ён клаў на яго хлеб-соль, аддаваў нізкі паклон ніве і праходзіў першую баразну. Ва ўсходнім Палессі селянін адпраўляўся на заворванне раніцой, узяўшы з сабой хлеб, соль, свянцоныя яйкі і мяса; шкарлупінне ад яек і косці ад мяса ён закопваў на мяжы пасля рытуальнай трапезы. Часам на ўзмежку рассяваўся мак ("радзіся поле так густа, як мак").

Пэўнае сімволіка-абрадавае значэнне мела і масць рабочых жывёл. Так, у некаторых раёнах Панямоння пазбягалі адкрываць палявыя работы на чорных ці сівых валах; у гэтым выпадку нярэдка пазычалі ў суседзяў валоў светлай масці. У паўночна-ўсходняй частцы Беларусі аралі на конях, што вызначала некаторыя асаблівасці арганізацыі сельскагаспадарчых работ, іх рытмікі, унутранай псіхалогіі і абрадавай атрыбутыкі. Абрад заворвання нярэдка суправаджаўся тут катаннем па спіне каня свянцонага яйка ("будзь, мой конь, гладак і повін, як ета яйцо").

**Віктар ЦІТОЎ.**

(Заканчэнне будзе).

## Віталь ЦВІРКА

**Мастацтва нашай рэспублікі панесла цяжкую страту. 11 чэрвеня памёр буйнейшы жывапісец, народны мастак Беларусі Віталь Цвірка.**

**У некралогу, падпісаным кіраўнікамі рэспублікі, калегамі, грамадскімі і культурнымі дзеячамі, гаворыцца:**

**В. Цвірка нарадзіўся 14 лютага 1913 года ў вёсцы Радзеева на Гомельшчыне. Віцебскі мастацкі тэхнікум, шматграннае мастацкае жыццё 20—30-х гадоў сталі тым плённым асяроддзем, якое дало магутны імпульс таленту жывапісца. Гады вучобы ў Маскоўскім мастацкім інстытуце імя В. Сурыкава ў такіх майстроў, як С. Герасімаў, П. Пакаржэўскі, Г. Ражскі, сфарміравалі грамадзянскую і творчую пазіцыю мастака. Віталь Цвірка ўвайшоў у беларускае мастацтва як яркі прыхільнік рэалістычнай школы, якая валодае высокай культурай вобразнага мыслення.**

**Найбагацейшая творчая спадчына жывапісца — гэта маштабнасць гістарычных палотнаў і ціхая лірыка эцюдаў, патэтыка герaічнага пейзажа-эпаса і паэзія звычайных рэчаў. Здабыткам гісторыі айчыннага мастацтва сталі карціны "Палонных вядуць" і "Няскораныя", "Сельская настаўніца" і "Паўстанне рыбакоў на возеры Нарач". З асаблівай чуллівасцю майстар улавіў непаўторныя рысы беларускай прыроды — як задушэўны рытмічны лад, гармонію каларыстычнай сугучнасці.**

**Талентам жывапісца асветлена і педагагічная дзейнасць Віталя Канстанцінавіча, і работа на кіруючых пасадах Саюза мастакоў. Ён выкладаў у Мінскім мастацкім вучылішчы, загадваў кафедрай жывапісу і быў рэктарам Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Сярод яго вучняў цэлы шэраг цяпер вядомых беларускіх жывапісцаў.**

**У летапісе беларускага мастацтва творчасць Віталя Цвіркі — залатая старонка, якую не раз прачытаюць усе, хто сэрцам адданы справе нацыянальнага адраджэння.**

## ЗАПРАШАЕМ СТАЦЬ АЎТАРАМІ КНІГІ

У Лідзе, як і ў іншых гарадах і раёнах Беларусі, вядзецца работа па напісанню кнігі-хронікі "Памяць". У гэтым выданні хочацца расказаць і пра лёсы землякоў-эмігрантаў. А выхадцы з былога Лідскага павета пражываюць у многіх краінах: Англіі, Германіі, Бельгіі, ЗША і іншых. Сярод гэтых людзей ёсць знакамітыя асобы, як, напрыклад, вядомы святар і выдаўца Янка Тарасевіч.

Шаноўныя землякі! Добра было б атрымаць ад вас ці вашых сваякоў або сяброў пісьмы-ўспаміны пра лёс лідчан-эмігрантаў, іх грамадскую дзейнасць за мяжой на карысць беларушчыны, пра памяць аб родных мясцінах і сваім народзе. Лісты дасылайце на адрас: 231300, Рэспубліка Беларусь, г. Ліда, вул. Ламаносава, 10, кв.6. Жалкоўскаму А.

**А. ЖАЛКОЎСКІ,**
**член Лідскай камісіі па напісанню кнігі "Памяць".**



## ЛЕТНІЯ МАТЫВЫ

Белай квеценню адбуяў май. Сёлета ён выдаўся і сонечным, і цёплым. К канцу месяца на вішнях, яблынях, на кустах парэчак, агрэсту, на сунічніку і чарнічніку дружна з'явілася завязь. Чакалася, што ўжо ў пачатку лета нават у паўночных частках Беларусі мы пакаштуем сваю садавіну, гародніну, зможам адправіцца ў лес па ягады.

Але надвор'е падвяло: чэрвень выдаўся халаднаватым. Разы са два ноччу здарыліся замаразкі. Недзе на нізінах прыйшлося перасаджваць бульбу, перасейваць агуркі.

Толькі ў птушыным і жывёльным царстве нібыта не заўважаюцца гэтыя метамарфозы прырорды: у качак, лебедзяў з'явіліся малыя, блукаюць па лясах ласі, алені, казулі і іншыя звяры, старанна ахоўваючы сваё патомства. Ды так старанна, што і чалавеку часам небяспечна падыходзіць да звяроў, каб не здарылася бяды.

І нам толькі здалёк застаецца назіраць і любавацца жывёламі.

**Фота Віктара СТАВЕРА і Васіля ЖУШМЫ.**



**РЭХА ПУБЛІКАЦЫІ**

## ВАС ПОМНЯЦЬ І ЧАКАЮЦЬ У ЛІДЗЕ

Якое ўзрушэнне могуць выклікаць некалькі газетных радкоў! У гэтым я пераканаўся нядаўна на прыкладзе публікацыі ў "Голасе Радзімы" Л. Класкоўскай. У карэспандэнцыі пра пісьмы нашых суайчыннікаў з-за мяжы Станіславу Шушкевічу прыгадваўся ліст Р. Клімко. Аўтар прасіў дапамогі ў пошуку сваякоў, якія родам дзесьці з-пад Ліды.

Ведаючы, што нямала Клімкаў жыве ў далёкіх і навакольных вёсках, перадаў той нумар аднаму чалавеку з такім прозвішчам. А праз пару дзён раздаліся званкі і з Ліды, і з вёсак, знайшліся сваякі заакіянскага адрасата. Неўзабаве да мяне прыйшлі Леанід Хаміца і яго сястра Таіса, дзеці сястры Сяргея Клімко — Юлі. Яны прынеслі тры фотаздымкі. На адным з іх "амерыканец" Сяргей Андрэевіч з сваёй жонкай, родам з Бярозаўкі, а таксама члены іх сям'і. На іншых фотакартках сыны Сяргея — Сымон і Сяргей з жонкамі і дзецьмі.

Леанід і Таіса прасілі мяне напісаць у газету "Голас Радзімы" наступнае. Яны ўсхваляваны і ўзрадаваны весткай ад Р. Клімко, помняць родных людзей, якіх лёс занёс у Амерыку, і будуць рады прыезду іх у госці на зямлю дзядоў. Гатовы цёпла прыняць сваякоў пляменнік Сяргея Клімко — Аляксандр Клімко, дырэктар аднаго з прадпрыемстваў, іншыя родзічы.

**А. ЖАЛКОЎСКІ, журналіст.**

*НАТАТКІ БІЁЛАГА*

# МІГРАЦЫЯ Ў ПРЫРОДЗЕ

Мы расказалі, як мігрыруюць рыбы, але, што дзіўна, і знаёмыя ўсім нам матылькі таксама робяць свае міграцыі.

На вялікай тэрыторыі Паўночнай і Цэнтральнай Амерыкі жыве надзіва прыгожы матылёк, які завецца манархам. Па маштабах міграцый гэтых матылькоў можна параўнаць з пералётнымі птушкамі. Летам яны жывуць па адным, а восенню збіраецца ў чароды і ляцяць з поўначы Канады і ЗША ў больш паўднёвыя раёны — у Фларыду, Каліфорнію, Мексіку, на Кубу, дзе праводзяць усю зіму. Непадалёку ад сталіцы Мексікі знаходзіцца незвычайны запаведнік. Кожную восень тут на дрэвах збіраецца на зімоўку да 50 мільёнаў матылёў-манархаў. Вясной яны адпраўляюцца назад у паўднёвую Канаду. Так як за лета ў месцах іх пастаяннага жыхарства змяняецца 3—4 пакаленні, то на зімоўку вяртаюцца матылі, якія ніколі не былі ў Мексіцы. Фенаменальная генетычная памяць дапамагае ім беспамылкова знайсці гэтае адзінае месца сваёй зімоўкі. Працягласць пералёту дасягае ад 1,5 да 3-х тысяч кіламетраў.

Ну а зараз пагаворым аб беларускім матылі-рэпніцы, які распаўсюджаны як у нашай краіне, так і ў краінах Заходняй Еўропы. Вучоныя-энтамолагі ўстанавілі, што восенню вялікія чароды рэпніц ляцяць на поўдзень. Некаторыя з іх гінуць у дарозе, але нейкая частка дасягае Сахары, каб адкласці яйкі і адразу загінуць. Дзеля чаго гэтыя матылі ляцелі болей чым тры тысячы кіламетраў? Толькі для таго, каб адкласці яйкі ў гарачай Сахары. А потым ідзе зваротны працэс. Вясной маладыя, ярка афарбаваныя рэпніцы імкнуцца ў далёкае падарожжа на поўнач, каб таксама выканаць свой доўг — адкласці яйкі і таксама загінуць. Як бачым, усё паўтараецца, і восенню маладыя рэпніцы зноў паляцяць дарогай "продкаў" у Сахару.

У ліпені 1964 года ў Валгаградскай вобласці Расіі назіраўся масавы пералёт матылёў-рэпніц. За тры дні на захад праляцела не менш 2 700 мільёнаў матылёў. Цікава, што летам таго ж года польскія энтамолагі заўважылі вялікую колькасць рэпніц, капусніц і капуснай молі на Балтыйскім узбярэжжы, у раёне горада Лемборка. На вялікай працягласці берагі марскіх пляжаў былі ўсеяны мёртвымі матылямі.

Каб вызначыць шляхі міграцыі матылькоў і прычыны перамяшчэння, вучоныя навучыліся пазначаць іх. Зараз вывучэннем міграцый насякомых у Еўропе і ЗША займаюцца спецыяльныя энтамалагічныя станцыі. Вучоныя-энтамолагі лічаць, што ў рэпніц, як і ў манархаў, тыя ж шляхі міграцыі, што і ў птушак. Восенню з Заходняй Еўропы яны, пераадольваючы Альпы, Пірэнеі, Міжземнае мора, ляцяць на поўдзень, а вясной у іх зваротны маршрут. Толькі матылі, у адрозненне ад птушак, накіроўваюцца ў свой адзіны пералёт, каб даляцець і, адклаўшы яйкі, загінуць. Вучоныя лічаць, што сезонныя перамяшчэнні рэпніц — свайго роду папярэджанне перанасялення, ад чаго ў канчатковым выніку залежыць жыццяздольнасць усяго віду.

Ёсць цікавыя прыклады міграцый і ў свеце звяроў. Вось усім добра вядомая жыхарка нашых лясоў — вавёрка. Але ці ўсе ведаюць, што далёка не ўсякі лес яе прываблівае. Яна селіцца толькі ў тых мясцінах, дзе можна знайсці сабе сховішча і ежу, якая ў яе вельмі разнастайная. Летам вавёрка харчуецца ягадамі, насеннем розных траў, насякомымі, іх лічынкамі і нават птушынымі яйкамі, восенню — жалудамі, арэхамі, рознымі грыбамі. На зіму звяркі робяць вялікія запасы корму.

Хвойныя лясы праз кожныя 4—6 гадоў даюць высокі ўраджай шышак. У лясах Поўначы альбо за Уралам можна ехаць некалькі дзён, і вакол будуць адны елкі альбо адны кедры без усялякіх іншых парод дрэў. І ў гады неўраджаю шышак на вялікіх масівах наступае галодны час для вавёрак, якія тут жывуць. Звяркі быццам прадчуваюць галодную зіму і адпраўляюцца на пошукі ўраджайных лясоў. Часцей за ўсё іх качоўкі назіраюцца ў канцы лета ці восенню. Вавёркі звычайна не перамяшчаюцца групамі або чародамі, яны быццам перамяшчаюцца адна за адной праз кароткія прамежкі часу, але даволі шырокай паласой па лесе.

На Ніжнім Амуры назіралі качоўкі вавёрак на тэрыторыі 300, а на Еўрапейскай Поўначы да 100 кіламетраў. Хуткасць перамяшчэння да 3—4 кіламетраў у гадзіну. Падчас качовак вавёркі губляюць сваю звычайную асцярожнасць, перабягаюць праз населеныя пункты, перасякаюць адкрытыя ўчасткі палёў і лугоў. Пры падыходзе да рэчак звяркі збіраюцца іншы раз вялікімі групамі, каб разам пераадолець водныя перашкоды. Падобнае назіралася пры пераправах вавёрак праз Об, Енісей, Амур.

Неаднойчы бачылі, як гуртам плылі вавёркі па Байкалу, у залівах Белага і Балтыйскага мораў, у Татарскім праліве, што аддзяляе Азію ад Сахаліна. Менавіта так у 20-х гадах нашага стагоддзя вавёркі засялілі лясы Камчаткі, дзе да гэтага ніколі не сустракаліся.

Такія міграцыі могуць цягнуцца да шасці месяцаў. Шмат звяркоў у дарозе гіне, але большасць усё ж дасягае багатых кормам мясцін. Падчас для гэтага ім даводзіцца пераадолець адлегласць да 500 кіламетраў і болей. Качоўкі вавёрак адносяцца да перыядычных незваротных міграцый, якія ў навуцы называюць эміграцыямі.

Павелічэнне ці памяншэнне колькасці вавёрак звязана з ураджаем насення хваёвых дрэў.

Так адкрываюцца таямніцы такой загадкавай з'явы, як міграцыі звяроў.

Мы расказалі пра розныя віды міграцый жывёл у паветраным, водным і наземным асяроддзі. Увесь жывёльны свет рухаецца, перамяшчаецца, адшуквае сабе лепшыя мясціны для жыцця, багатыя ежай і спакойныя для расплоджвання.

Міграцыі ўзніклі ў працэсе эвалюцыйнага развіцця жывёльнага свету і з'яўляюцца характэрным біялагічным прыстасаваннем да ўмоў выжывання. Гэта закон прыроды даўні і вечны. І таму ён заўсёды хвалюе.

**Аляксандр КУРСКОЎ, кандыдат біялагічных навук.**

Заканчэнне. Пачатак у №№ 23, 24.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК: Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма".



НАШ АДРАС: 220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 5 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 902. Падпісана да друку 21. 06. 1993 г.